

“Каб усе былі адно” (Ян 17, 21)

# Царква

№ 2 (29), 2001 СЬВЯТА ПЯТРА І ПАЎЛА

# Візіт Папы Яна Паўла II ва Ўкраіну:

## Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква моліцца разам са Сьвятым Айцом сярод братоў-украінцаў

*«Я прыйшоў, каб пакланіцца сьвятыням вашае гісторыі і разам з вамі прасіць у Бога заступніцтва для вашай будучыні».*

*Ян Павел II*

















*Матэрыялы, прысьвечаныя візіту Сьвятога Айца Яна Паўла II ва Ўкраіну, чытайце на с. 3-4, 6, 9* ⇨



## 25-гадовы Юбілей сьвятарства Дэкана БГКЦ

***21 чэрвеня споўнілася 25 гадоў з дня сьвятарскай хіратоніі Вялебнага Протапрасьвітара Віктара Данілава, Дэкана БГКЦ, якую яму ўдзяліў у варунках падпольля ў Львове мітрапаліт УГКЦ Уладзімір Стэрнюк.***

З нагоды Юбілею свайго душпастыра ды духоўнага айца ў першую чаргу віншавалі парафіяне Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме.

Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі Найвялебны Архімандрыт Сяргей Гаек адразу пасьля вяртаньня з Украіны (дзе ён знаходзіўся падчас візіту Папы) у нядзелю 1 ліпеня наведаў Гарадню, каб разам з Вялебным Юбілярам адслужыць Боскую Літургію для падзякі Госпаду за 25 гадоў сьвятарскага служэньня Айца Протапрасьвітара.

У сваёй прамове Айцец Візітатар выказаў удзячнасьць айцу Віктару ад імя ўсёй БГКЦ ды падкрэсьліў выключны характар ягонай сьвятарскай працы. Дзякуючы нязломнаму духу ды адвазе айца Віктара Данілава нашая Царква жыла ў часы перасьледу ў падпольлі, духоўна кармілася Боскай Літургіяй ды іншымі сьвятымі Тайнамі, будавалася ягонай апостальскай і настаўніцкай працай.

З нагоды Юбілею 25-годдзя сьвятарства протапрасьвітара Віктара Данілава рэдакцыя газеты «Царква» падрыхтавала беларускае выданьне ягонай аўтабіяграфічнай кнігі «Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы». Гэтая кніга неўзабаве выйдзе ў сьвет.

# Віншаваньні Сьвятому Айцу ў дзень народзінаў

18 траўня 2001 году Сьвятому Айцу Яну Паўлу ІІ споўніўся 81 год. Ранкам у гэты ўрачысты дзень сьв. Імшу ў папскай прыватнай капліцы ў Апостальскім палацы (у Ватыкане) саслужыў з Яго Сьвятасьцю Апостальскі візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек) ды некалькі іншых сьвятароў-пілігрымаў, у прысутнасьці невялікае групы вернікаў.

Пасьля сьв. Імшы Архімандрыт Сяргей меў магчымасьць павіншаваць Сьвятога Айца з Днём яго народзінаў і перадаць Яго Сьвятасьці словы глыбокай пашаны, любові ды вернасьці беларускіх грэка-католікаў. Айцец Візітатар уручыў таксама Папе памятны еўфрасіньнеўскі крыж і апошнія нумары часопісаў беларускіх семінарыстаў «Разам» ды «Сьветач».

**Яго Сьвятасьці Архірэю Яну Паўлу, Папу Рымскаму: «ad multos annos» - «на многія леты»!**

# Сьвята Будслаўскай іконы Маці Божай:

### *Апостальскі нунцый разьвітаўся з Беларусьсю*

У панядзелак, 2 ліпеня, у Нацыянальным Санктуарыі Маці Божай у Будславе адзначалася патранальнае сьвята Будслаўскай іконы Маці Божай. На гэтую ўрачыстасьць прыбылі да Будслава шматлікія пілігрымы (значная частка іх ішла пешкі) з усіх куткоў Беларусі. Паводле традыцыі, вечарам 1 ліпеня ўрачысты Акафіст Божай Маці перад Яе цудадзейнай іконай сьпявалі грэка-каталіцкія пілігрымы. У гэтым годзе гэта была моладзь менскіх парафіяў.

У сам дзень сьвята – 2 ліпеня – галоўную ўрачыстую сьв. Імшу ўзначальваў Яго Эмінэнцыя Айцец Кардынал Казімір Сьвёнтак у саслужэньні Апостальскага нунцыя ў Беларусі Яго Эксцэленцыі Айца Архібіскупа Дамініка Грушоўскага ды ўладыкаў: Я.Э. Аляксандра Кашкевіча – біскупа Гарадзенскага, Я.Э. Уладзіслава Бліна – біскупа Віцебскага, Я.Э. Кірылы Клімовіча–- дапаможнага біскупа Менскага, Я.Э. Казіміра Велікасельца – дапаможнага біскупа Пінскага, Найвялебнага Архімандрыта Сяргея Гаека – Апостальскага візітатара БГКЦ ды шматлікіх сьвятароў з усёй Беларусі.



Напрыканцы ўрачыстае Службы Божай Яго Эксцэленцыя Айцец Архібіскуп Дамінік Грушоўскі абвясьціў, што з моманту спаўненьня яму 75 гадоў жыцьця (1.06.2001) ён адыходзіць на пеньсію ды пакідае пасаду Апостальскага нунцыя ў Беларусі. Таму сьвяточную службу ў Будславе 2 ліпеня 2001 году ён лічыць сваім літургічным разьвітаньнем з Каталіцкай Царквой у Беларусі. У бліжэйшы час будзе прызначаны новы прадстаўнік Сьвятой Сталіцы ў Беларусі.

***З нагоды заканчэньня місіі Апостальскага нунцыя ў Беларусі жадаем Найдастойнаму Айцу Архібіскупу Дамініку Грушоўскаму багатых Божых блаславеньняў ды з удзячнасьцю сьпяваем «на многія леты».***

# Малітва за БГКЦ на магіле сьв. Кірылы Салунскага

У рымскай базіліцы сьв. Клімента папы існуе традыцыя: прадстаўнікі славянскіх Цэркваў — каталіцкіх ды праваслаўных — штогод, 11 траўня (24 траўня па старым стылі), у дзень памяці сьвятых Апосталаў славянаў Кірылы і Мятода, узносяць свае малітвы ля магілы сьв. Кірылы, што знаходзіцца ў ніжняй (падземнай) частцы базілікі. У гэты памятны дзень на малітву ў базіліцы сьв. Клімента папы зьбіраюцца балгары, македонцы, украінцы, славакі ды таксама іншыя славяне.

Сёлета, 10 траўня, напярэдадні сьвята, Боскую Літургію ў капліцы сьвятых Кірылы і Мятода, што ў базіліцы сьв. Клімента, узначальваў архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі, з якім саслужылі: стаўрафор а. Яцынт Сабалеўскі з італійскага гораду Ля Спэцыя, а. Уладзімір Башуцкі з Ужгараду, што ў Закарпацьці ва Ўкраіне ды а. Дыякан Мар'ян Мэдвід з Кошыцаў (Славакія). Падчас набажэнства сьпявалі семінарысты ды пілігрымы з Ужгарадзкай япархіі.

Падчас Боскай Літургіі яе ўдзельнікі асабліва маліліся за Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву, за яе духоўнае ды структурнае разьвіцьцё. Пасьля гэтага ўсе ўдзельнікі набажэнства перайшлі да магілы сьв. Кірылы, дзе адправілі кароткі малебен.



# Украіна любіць Папу!

***Уніяты з Берасьцейшчыны і Гарадзеншчыны 27 чэрвеня 2001 году ўдзельнічалі ў грандыёзным набажэнстве, якое ўзначальваў Сьвяты Айцец Ян Павел ІІ. Разам з рымскім Архірэем маліліся больш за 1,5 мільёны чалавек.***



Наша пілігрымка ў Львоў пачалася 26 чэрвеня са сьв. Літургіі ў берасьцейскай парафіі сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя, у якой бралі ўдзел усе пілігрымы. А потым была дарога. Калёсная гума двух аўтобусаў мякка шапацела па асфальце. Пад гэтае шапаценьне арганізацыйныя клопаты, што ўжо засталіся ў мінулым, здаваліся няцяжкімі, а нават і прыемнымі. 84 пілігрымы з Берасьцейшчыны і Гарадзеншчыны імчаліся ў Львоў.

Вось і мяжа. Беларускі памежнік, кінуўшы нам «здрасьце» ў адказ на нашае «Слава Ісусу Хрысту», пачаў пільна ўглядацца ў твары і пашпарты. А на ўкраінскім баку мяжы наш сьвятар а. Ігар Кандрацьеў вярнуўся ў аўтобус са словамі: «Клас! Украінскі афіцэр адказаў «Слава на векі» і сказаў, што ня будзе правяраць дакументы».

Ехалі весела. Сьпявалі хрысьціянскія песьні. Тыя, хто рыхтаваўся прыняць сьвятое Прычасьце на ўрачыстай Літургіі з удзелам Сьвятога Айца, спавядаліся айцу Ігару. Прыехалі ў Львоў ноччу. У горадзе прайшоў дождж, было вільготна. Раніцай я выйшаў з аўтобусу. Ад доўгага сядзеньня балелі калені і паясьніца. Шарэла. Цьмяна блішчэлі лужыны. Уздоўж усёй вуліцы стаялі аўтобусы, аздобленыя рознымі сьцягамі і плакатамі, партрэтамі Яна Паўла ІІ. З аўтобусаў выходзілі заспаныя людзі і ўліваліся ў суцэльны людзкі паток, што рухаўся, як рака. Мы разгарнулі свае бел-чырвона-белыя сьцягі, транспаранты і таксама ўвайшлі ў гэтую раку. «Жыве Беларусь!»— крычалі нам. «Слава Украіне!»— адказвалі мы. «Слава Ісусу Хрысту!»— «Слава на векі!» Мне падумалася, што ў гэты вельмі ранні час мой Пінск бывае пусты і маўклівы, і здаецца, ніякая сіла ня здольная выклікаць у ім гэтакі ж магутны паток. А мо гэта толькі пакуль? І мне нагадалася Прыпяць увесну, узятая ў кайданы дамбаў. Вось яна напружваецца, падымаецца і раптам — маленькі струменьчык праз дамбу, а праз паўгадзіны тут раве і шырыцца магутная плынь і займае абшары, што займала спрадвеку. Мо так і з Уніяй, саюзам хрысьціянскіх Цэркваў — Праваслаўнай і Каталіцкай?

Потым людзкая рака разьдзялялася на ручаі, якія з розных накірункаў уліваліся ў мора — поле львоўскага іпадрому.

Бедны іпадром, бедныя львоўскія коні! Пазьней, пасьля набажэнства, мы даведаліся, што на іпадроме было мільён дзьвесьце тысячаў вернікаў (яшчэ больш за трыста тысячаў былі вакол яго). Пасьля начнога дажджу і мільёну параў ног поле ператварылася ў глiністую кашу, мяккую і сьлізкую. Успомніліся словы а. Ігара ў пачатку пілігрымкі: «Гэта не экскурсія. Умацоўвайцеся духам. Будзе цяжка».

Чарнявы хлопчык гадоў дванаццаці зазірнуў мне ў вочы: «Файны прапор! А то чый?»

Бел-чырвона-белы сьцяг, што я нёс, сапраўды быў «файны» — на мяжы таго, каб даваць яму рады,— два з паловай на пяць метраў. І дрэўка каля пяці метраў, а таўшчынёй амаль у мужчынскую руку.

Даведаўшыся, што «прапор» беларускі: «А то стары чы новы?»— бач, малы, малы, а нешта чуў пра наш нацыянальны сімвал і ганьбу, якую яму ўчынілі. І зноў: «Файны прапор!»

Я вельмі запаважаў гэтага маленькага самааддананага ўкраінца. І пазайздросьціў па-добраму.

«Украіна ўстане з каленаў»,— не памятаю, хто сказаў,— калі стане на калені перад Богам». Тое, што я бачыў 27 чэрвеня 2001 году на львоўскім іпадроме, пераконвае — Украіна выпроствае сьпіну.

А 8-й гадзіне доступ на іпадром быў спынены. Тыя, што спазьніліся альбо ня мелі запрашэньняў, абкружылі яго. Дарэчы, міліцыі і вайскоўцаў, што забясьпечвалі парадак, было няшмат. Мне прыходзілася бачыць іх нашмат болей. Здагадайцеся з трох разоў, дзе і на якіх мерапрыемствах! Меры бясьпекі не пераўзыходзілі межы разумнага. Толькі ў запрашэньнях указвалася «нэ вносыты мэталэвых прэдмэтів і скляного посуду». І потым Ян Павел ІІ ехаў праз натоўп, і шкляны каўпак папамабіля быў з бакоў адчынены.

На трыбуне іпадрому сабраны з лёгкіх канструкцыяў алтар з выявай Багародзіцы ў цэнтры. Па баках яго — два велізарныя тэлевізійныя экраны. Калыхаецца людзкое мора. Лунаюць сьцягі. Большасьць, натуральна, жоўта-сініх, украінскіх,— яны паўсюль. Адзін — андрэеўскі — дэлегацыі ўніятаў з Расеі, бэў і зорна-паласаты, амерыканскі. Потым угледзеў бела-сіне-чырвоны з крыжом, як у нашай «Пагоні»,— славацкі. Там-сям відаць жоўта-белыя — Ватыкану. У суседнім сектары бачу самотны белачырвоны — уніяты з Польшчы. А гэта што? Белачырвона-белы. Пакідаю трымаць наш «файны прапор» і з цяжкасьцю прабіваюся праз натоўп. Гэта беларусы Львоўшчыны. Размаўляю з Алесем — лідарам беларускай дыяспары Львоўскай вобласьці. Беларусаў тут сорак тысячаў, шмат уніятаў. Адраджэньне Уніі ва Ўкраіне паспрыяла ім вярнуцца да веры прапрадзедаў.

Па дынаміках гучыць голас а. Барыса Гудзяка, рэктара Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі:

— Чы готові вы молытыся з Рымськім Папою?

— Готові!

— Нэ чую!..

— Готові!!

— Нэ чую!..

— Готові!!!

— Хай почуе увэсь Львів!

— Готові!!!

— Хай почуе Кыїв!

— Готові!!!

— Хай почуе Москва!

— Го-о-то-о-ві-і!!!

— На Божэствэнну Літургію прыбув Прэзидэнт України Лэонід Кучма!

— Ві-та-е-мо!

— Рымський Папа Сьвятіший Отэць Іван Павло ІІ!

— А-а-а! Україна любыть Папу, Україна любыть Папу!..

Шкло каўпака адчынена, і там, у нутры, я бачу знаёмы ўсяму хрысьціянскаму, ды й ня толькі хрысьциянскаму, сьвету твар, крыху прыгорбленую гадамі постаць. Да яго метраў дзесяць. Ён усьміхаецца і блаславіляе людзей знакам крыжа.

«Україна любыть Папу! Україна любыть Папу!» і — о дзіва! Мне больш ня хочацца прысесьці, я бадзёры, я радасны, мне ўжо не здаюцца пакутлівымі тры гадзіны, што я прастаяў дагэтуль па шчыкалаткі ў вадкім месіве.

Яшчэ больш за чатыры гадзіны Літургіі, падчас якой адбылася беатыфікацыя 28 пакутнікаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы, праходзяць на адным дыханьні, велічна і прыгожа. Служба вядзецца выключна па-ўкраінску, і я чую вакол шэпт, што ў Папы нават няма акцэнту. Ня дзіўна — славянін Ян Павел ІІ валодае славянскімі мовамі добра, у тым ліку і беларускай.

Ах, як было прыемна! Напрыканцы набажэнства Ян Павел ІІ, Рымскі Архірэй, па-беларуску зьвярнуўся да беларускіх уніятаў, да нас значыць. Колькі было радасьці! Мы і пакрычалі, і сьцягамі памахалі ўволю. Ведалі, што дома ня ўдасца.

...Бясконцы людзкі паток пацёк у зваротным накірунку. Па дарозе ў нас сьлёзна выпрасілі для будучага музею, што будзе прысьвечаны візіту на Ўкраіну Сьвятога Айца, наш беларускі бел-чырвона-белы сьцяг і адзін транспарант. Мы, беларускія ўніяты з Берасьця, Івацэвічаў, Пінску, Бярозы, Косава, Маларыты, Слоніма і Гародні, вярнуліся да сваіх аўтобусаў, крыху памыліў у лужынах абутак і пазасыналі, скурчыўшыся ў цесных крэслах. Нас чакала Беларусь. Ці чакае яна Папу? Думаю, даўно чакае.

**Павел Ляхновіч**

*г. Пінск*





# Папа Рымскі заклікае хрысьціянаў да прымірэньня

*Глава дзяржавы Ватыкан і Каталіцкай Царквы Ян Павел II 23-27 чэрвеня 2001 году зьдзейсьніў сваё першае паломніцтва ва Ўкраіну, якое стала 94-м па ліку за час пантыфікату Сьвятога Айца.*

23 чэрвеня Сьвяты Айцец прыбыў у сталіцу Украіны Кіеў, прыляцеўшы на самалёце з Італіі. Зыйшоўшы з самалёту ў суправаджэньні кардыналаў, Пантыфік пацалаваў украінскую зямлю, якую яму паднесьлі ў чашы хлопчык і дзяўчынка ў нацыянальных строях. Яна Паўла II сустракаў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, а таксама прадстаўнікі духавенства абодвух абрадаў на чале з кардыналамі Любамірам Гузарам, Главой УГКЦ, і Мар'янам Яворскім, главой РКЦ ва Ўкраіне. Прэзідэнт Украіны выступіў з прамоваю, вітаючы высокага госьця. У адказ выступіў і Папа Рымскі, які гаварыў па-ўкраінску.

Папа зьвярнуўся да прадстаўнікоў Грэка-Каталіцкай і Рыма-Каталіцкай Цэркваў: «Я зьбярог у сэрцы вашыя неаднаразовыя запрашэньні наведаць Украіну, і цяпер я рады, што нарэшце магу на іх адказаць... Які велічэзны цяжар пакутаў вам давялося перанесьці за мінулыя гады! Але цяпер вы выяўляеце энтузіязм і перабудоўваецеся, шукаючы сьвятла і суцяшэньня ў вашым слаўным мінулым».

У Кіеве Папа Рымскі адслужыў дзьве літургіі ў лацінскім і візантыйскім абрадах, прысутнічаў на паседжаньні Усеўкраінскай Рады Цэркваў і рэлігійных арганізацыяў, меў сустрэчу з Уладыкамі ў Папскай нунцыятуры, склаў пашану габрэям, якія былі расстраляныя ў Бабіным Яры.

У Кіеве ў сваіх прамовах Папа Рымскі неаднаразова заклікаў хрысьціянаў да еднасьці і папрасіў прабачэньня ў Бога «за памылкі далёкага і блізкага мінулага», а таксама заявіў аб прабачэньні тым, хто «быў несправядлівы да нас». Глава Каталіцкай Царквы заклікаў хрысьціянаў да ўсеагульнага прымірэньня.

26 чэрвеня Папа сустрэўся ў Львове з 400-тысячнай грамадой украінскай моладзі, якая шматразова цёпла вітала Папу воклічамі: «Мы любім цябе!» Папа адказаў узаемнасьцю і, нечакана для многіх, калі ўзмацніўся дождж, нават засьпяваў.

У Львове Папа таксама адслужыў дзьве літургіі, якія сабралі разам больш за 2 мільёны вернікаў. Падчас апошняй сьв. Літургіі ў візантыйскім абрадзе Рымскі Архірэй урачыста абвясьціў сьвятымі 28 мучанікаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы. Гэтае набажэнства сталася самай масавай літургіяй у візантыйскім абрадзе ў гісторыі Царквы – на яе сабралася больш за 1,5 мільёны вернікаў. Падчас гэтай літургіі ў прысутнасьці Сьвятога Айца Глава УГКЦ кардынал Любамір Гузар ад імя ўсёй Царквы папрасіў прабачэньня ва ўсіх тых, каго калі-небудзь нечым пакрыўдзілі грэка-католікі. І, каб пазбавіцца цяжару жахлівай мінуўшчыны, адзначыў, што і «мы з радасьцю даруем тым, хто ў які-небудзь спосаб крыўдзіў і нас».

*Іншыя матэрыялы гл. у наступным нумары «Царквы».*

# Надзвычайная кансісторыя кардыналаў

*21-24 траўня 2001 году ў Ватыкане адбылася надзвычайная кансісторыя кардыналаў. Гэта была шостая кансісторыя за час пантыфікату Яна Паўла II. (Папярэднія мелі месца ў 1979, 1982, 1985, 1989, і 1994 гг.).*

Агульная тэма кансісторыі гучала так: «Персьпектывы Царквы на Трэцяе Тысячагоддзе». Гэтую тэму разглядалі найперш у сьвятле Апостальскага пасланьня Яна Паўла II «Novo Millennio ineunte» («На пачатку Новага Тысячагоддзя») Да ўдзелу ў кансісторыі Сьвяты Айцец запрасіў усіх 183 сябраў Калегіі Кардыналаў. Па стане здароўя або з прычыны паважнага веку не змаглі прыбыць 24 кардыналы, і таму ў кансісторыі бралі ўдзел 159 кардыналаў (сярод іх і 44 новыя кардыналы, якія былі ўзьнятыя да гэтай годнасьці на публічнай (адкрытай) кансісторыі 21.02.2001).

Вось асноўныя тэмы, над якімі разважалі кардыналы на чале з Папам: «Абвяшчэньне Хрыста як адзінага Збаўцы сьвету ў кантэксьце міжрэлігійнага дыялогу», «Значэньне Царквы і сакрамантаў у рэалізацыі збаўленьня ў кантэксьце рэлігійнага сінкрэтызму і руху «New Age», «Праблема справядлівасьці і хрысьціянскай салідарнасьці ў кантэксьце глабалізацыі (у тым ліку балючая праблема даўгоў бедных краінаў багатым краінам)», «Шлюб, сям'я, сэксуальная этыка: хрысьціянская маральнасьць і выклікі маральнага індывідуалізму, а таксама новыя біялагічныя эксперыменты».

У працы надзвычайнай кансісторыі браў удзел Яго Эмінэнцыя Айцец Кардынал Казімір Сьвёнтак, мітрапаліт Менска-Магілёўскі.

## УРАЧЫСТАСЬЦЬ ПЕРШАВЯРХОЎНЫХ АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА Ў ВАТЫКАНЕ

Цэнтральным момантам сьвяткаваньня патранальнага сьвята Рымскай Царквы, дня сьвятых першавярхоўных Апосталаў Пятра і Паўла, была ўрачыстая сьвятая Імша на плошчы сьв. Пятра ў Ватыкане, якую ўвечары 29 чэрвеня 2001 году, у прысутнасьці Сьвятога Айца Яна Паўла II, узначальваў Прэфект Кангрэгацыі Навукі Веры кардынал Ёзаф Рацінгер. Прысутнічалі на Імшы 30 кардыналаў ды шматлікія біскупы з усяго сьвету.

Паводле шматгадовае традыцыі, у сьвяточным набажэнстве брала ўдзел афіцыйная дэлегацыя Канстанцінопальскага Патрыярха Баўтрамея. У гэтым годзе яе ўзначальваў найдастойны Ерамія, праваслаўны мітрапаліт Францыі і экзарх Іспаніі.

Сваю гамілію Сьвяты Айцец прысьвяціў «служэньню Пятра» на шляху да поўнай еднасьці ўсіх хрысьціянаў, асабліва на шляху паяднаньня з праваслаўнымі, пры гэтым ён узгадаў сваё падарожжа ва Ўкраіну. Напрыканцы казаньня Сьвяты Айцец Ян Павел II усклаў на рамёны новых 34 архібіскупаў-мітрапалітаў (яны паходзяць з 21 краіны і пяці кантынентаў) паліюм (амафор), які ў лацінскай традыцыі носяць мітрапаліты як знак духоўнай сувязі з Рымскай Сталіцай.

# Трагічная сьмерць грэка-каталіцкага сьвятара ў Сібіры

*У дзень Уваскрасеньня Гасподняга, 15 красавіка 2001 году ў пасёлку Ярцава непадалёк ад Нарыльску Краснаярскага краю быў знойдзены закатаваны 77-гадовы грэка-каталіцкі сьвятар Ян Фрацкевіч. Яго цела было прывязанае да ложка ў пакоі пры капліцы.На галаве былі бачныя сьляды ад удараў металічным прадметам.*

Айцец Ян Фрацкевіч быў высьвячаны на сьвятара ў візантыйскім абрадзе 1 лістапада 1986 году ў Ліване. 21 красавіка 1993 году грэка-мельхіцкі каталіцкі біскуп Бейруту Хабіб Баша бласлявіў яго на працу ў Сібір.

Яго душпастырскай апецы былі давераны грэка- і рыма-католікі, якія жывуць на тэрыторыі Краснаярскага краю ў населеных пунктах, што раскінутыя на 2000 км уздоўж Енісею ад Енісейску да Нарыльску і Дыксану. Айцец Ян быў нястомны працаўнік на ніве Гасподняй – ён абслугоўваў 13 грамадаў, у тым ліку ў Нарыльску, Талнах і Ярцаве. Ён часта гаварыў: «Я заўсёды ў стане поўнай гатоўнасьці». Яго не палохалі ні велізарная тэрыторыя, ні холад, ні голад, ні прымітыўныя ўмовы жыцьця. Ён ніколі не скардзіўся на цяжкасьці працы – ён умеў іх пераадольваць. Сьвятар Ян Фрацкевіч быў вялікі шанавальнік Божай Міласэрнасьці. Ён любіў моладзь і імкнуўся наблізіць маладое пакаленьне да евангельскіх каштоўнасьцяў праз выданьне часопіса «You – Ты». Заўсёды прагнуў абвяшчаць Слова Божае, шмат дапамагаў бедным. Айцец Ян прымаў і захапляўся культурай народаў, сярод якіх ён працаваў.

Таксама ён праяўляў вялікую цікавасьць да адраджэньня нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. Быў яе шчырым сябрам. У верасьні 2000 году Апостальскаму візітатару для грэка-католікаў Беларусі архімандрыту Сяргею Гаеку давялося некалькі разоў саслужыць разам з а. Янам Фрацкевічам Боскую Літургію.

24 красавіка 2001 году ў каталіцкай царкве Краснаярску Апостальскі адміністратар Усходняй Сібіры біскуп Ежы Мазур разам з іншымі каталіцкімі сьвятарамі Сібіры адслужыў сьв. Імшу за супакой душы а. Яна Фрацкевіча.

Сьмерць грэка-каталіцкага сьвятара Яна Фрацкевіча, зважаючы на яе абставіны, называюць мучаніцкай. Яна застанецца сімвалам надзеі для хрысьціянства, што адраджаецца ў Сібіры, на Зямлі многіх сьведкаў веры, Зямлі мучанікаў.

Усяго ў Расеі на працягу апошніх некалькіх месяцаў загінула пяць каталіцкіх сьвятароў, прычым некаторыя пры вельмі дзіўных абставінах.

## ПАМЁР ПАТРЫЯРХ-ЭМЕРЫТ МЕЛЬХІЦКАЙ ЦАРКВЫ

29 чэрвеня ў Бейруце (Ліван) ва ўзросьце 93 гадоў памёр грэка-мельхіцкі патрыярх Антыёхіі (на спачынку) — Яго Блаславенства Максім V Гакім. Ён кіраваў Грэка-Мельхіцкай Каталіцкай Царквой на працягу 33 гадоў. Напрыканцы мінулага году яго замяніў на патрыяршым пасадзе Антыёхіі Яго Блаславенства Рыгор III Лахам *(гл. «Царква», № 4-2000, с. 4)*. Пахаваньне спачылага патрыярха Максіма V адбылося 4 ліпеня ў грэка-мельхіцкай катэдры ў сталіцы Сірыі Дамаску.

У сувязі са сьмерцю патрыярха Максіма V Сьвяты Айцец Ян Павел II выслаў на імя дзейнага патрыярха Рыгора III сьпецыяльную тэлеграму, у якой асабліва адзначыў вялікія заслугі памерлага на ніве экуменічнага дыялогу і збліжэньня з праваслаўнымі Антыяхійскага Патрыярхату.

# Новая сьвятая Мараніцкай Царквы Вялебная Рафка (Шабок ар-Раес)

*10 чэрвеня 2001 году ва ўрачыстасьць Найсьвятой Тройцы па календары лацінскай Царквы (ды ў Нядзелю Ўсіх сьвятых у візантыйскім календары) у Рыме адбылася ўрачыстая кананізацыя новых сьвятых. Яго Сьвятасьць Ян Павел II залічыў да сьвятых пяць блаславёных - трох італійскіх сьвятароў ды дзьве манахіні: італійку Тэрэзу Вэрцэры ды маранітку з Лівану Рафку Шабок ар-Раес.*



Рафка нарадзілася 29 чэрвеня 1832 г. у сям'і каталікаў сіра-мараніцкага абраду ў вёсцы Гімляя. На сьвятым хросьце атрымала імя Бутрус'я, што значыць Пётра. Хутка яна страціла сваю маці ды мусіла працаваць як служанка ў іншых.

Калі ёй было 21 год, Бутрус'я вырашыла стаць законьніцай у мараніцкай супольнасьці Сёстраў Марыямітак. У гэтай супольнасьці яна працавала больш за 15 гадоў сярод бедных мараніцкіх дзяцей у гарах Лівану як настаўніца ў хрысьціянскіх школах.

У 1871 г. Бутрус'я пасьля доўгіх малітваў пабачыла ў сьне сьвятых Юрыя, Сымона Стоўпніка ды Антонія Вялікага (Айца манахаў), якія загадалі ёй стаць манахіняй у законе Ліванскіх Мараніцкіх Манахіняў. У гэтым законе 25 жніўня 1872 г. яна прыняла манаскую схіму ды атрымала імя Рафка (значыць Рэбэка).

26 гадоў яна пражыла ў манастыры сьв. Сымона ў Айту. Адзначалася вялікай пабожнасьцю да Пакутаў Хрыстовых, маючы свае фізічныя пакуты - асабліва цяжкую хваробу вачэй.

У 1897 г. ігуменьня накіравала сястру Рафку ў новы манастыр сьв. Язэпа. У гэты перыяд яе жыцьця хваробы прынясілі Рафцы яшчэ большыя пакуты. Яна зусім страціла зрок ды яшчэ займела параліч. Усё гэта Рафка зносіла з вялікай цярплівасьцю ды ўдзячнасьцю Богу, бо праз свае пакуты і яна змагла далучыцца да цярпеньняў Хрыстовых.

Сваё дачаснае жыцьцё, напоўненае малітвай, служэньнем іншым і ўшанаваньнем Крыжа Гасподняга, а таксама вялікай любоўю да Багародзіцы і сьв. Язэпа, манахіня Рафка скончыла 24 сакавіка 1914 году. Была пахавана на манастырскіх могілках.

У 1927 г., калі распачаўся беатыфікацыйны працэс, яе мошчы былі перазахаваныя ў манастырскім храме.

Беатыфікацыя манахіні Рафкі мела месца ў Рыме 17 лістапада 1985 году, а праз 16 гадоў - 10 чэрвеня 2001 году — адбылася яе кананізацыя. Такім чынам Вялебная Рафка стала першай каталіцкай сьвятой усходне-каталіцкай традыцыі ў Трэцім Тысячагоддзі.

## ХРОНІКА

# Выстава пісанак у Полацаку

Аднаўленьне беларускіх хрысьціянскіх традыцыяў становіцца прыемнай падзеяй у жыцьці грэка-каталіцкай парафіі сьвятога Язафата, што ў Полацку. Пасьля батлейкі, якая ладзілася на Раство, апошняй цікавай падзеяй стала выстава пісанкі. Адкрылася гэтая выстава акурат на Вялікдзень — 15 красавіка. Падрыхтоўкай яе займаліся парафіяне разам з полацкімі сёстрамі-студыткамі з Увядзенскага манастыра. Традыцыйную тэхналогію росьпісу пасхальных яек вельмі хутка засвоіла Вольга Агапончык, 15-гадовая выпускніца Полацкай мастацкай школы. Плён яе працы пабачылі ня толькі парафіяне — на працягу 10 дзён выстава была адчынена ў Полацкім цэнтры рамёстваў пры гарадзкім доме культуры.



*Фота Міколы Шараха.*

# Першая Пасха XXI стагоддзя ў Менску

Першую Пасху XXI стагоддзя грэка-католікі Менску сустракалі ў Чырвоным касьцёле. Сьвяткавалі разам дзьве парафіі: парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі і парафія Сьвятога Язэпа. Чырвоны Касьцёл, які ўдзень ні на хвіліну ня быў пусты, не застаўся пусты і ўначы. Багаслужэньне пачалося каля поўначы хросным ходам і сьпяваньнем велікоднага трапара «Хрыстос уваскрос з мёртвых!»

Гэтае ўрачыстае «Хрыстос уваскрос з мёртвых!», сьпяванае шматлікімі прысутнымі, можна прачытаць як праўдзівы *ЗНАК ЧАСУ*. Праўдзівы знак, бо як можна інакш трактаваць факт адраджэньня Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы практычна ад «нуля». Праўдзівы знак, бо хто мог спадзявацца, яшчэ дзесяць год таму, што грэка-католікі змогуць маліцца за нашу краіну практычна ў самым цэнтры сталіцы.

Уваскрасеньне Хрыста сталася ў гісторыі *ЗНАКАМ ЧАСУ* для ўсяго чалавецтва, і ва ўсе часы гэтага знаку шукалі ў Беларусі. Шукалі і знаходзілі. Стукалі і адчыняліся дзьверы для выйсьця з самых складаных, безнадзейных сітуацыяў. І цяпер шукаюць і знаходзяць... Таго, Хто дае жыццё новае.

Уваскрасеньне — гэта радасьць новага жыцьця, якое дае Хрыстос. Радасьць таго, што разам з Ім мы пераадольваем самыя розныя праблемы. Радасьць таго, што мы можам разам з Уваскрослым Хрыстом зьмяняць сьвет вакол нас. Нарэшце, Уваскрасеньне — гэта радасьць Надзеі... Надзеі на Яго і на сябе. А як выява гэтай Надзеі — грэка-каталіцкія храмы, якія паўстаюць па ўсёй Беларусі. Якія ж яшчэ знакі Госпад прыгатаваў для нас?!

**Андрэй БУЙНІЧ**

# Прэзентацыя выдавецтва «Сафія»

У падцаркоўнай залі грэка-каталіцкай царквы сьв. Параскевы Полацкай, што ў Полацку, 3 чэрвеня адчынілася выстава друкаваных выданьняў, якія пабачылі сьвет дзякуючы выдавецтву «Сафія». Ініцыятарам арганізацыі гэтай выставы стаў дырэктар выдавецкага аддзелу парафіі сьв. Язафата сп. Міхась Баўтовіч, а нагодаю для гэтага стала 3-я гадавіна пачатку дзейнасьці выдавецтва. У экспазіцыі — творы аўтараў розных часоў, на розныя гістарычныя тэмы, грэка-каталіцкая апалагетыка. Найбольшай удачай выдавецтва можна назваць зборнік «Полацкія пакутнікі», у якім падаюцца малавядомыя гістарычныя дакументы пра жорсткае забойства царом Пятром І манахаў-базыльянаў, а таксама кніга Вацлава Пануцэвіча «Сьвяты Язафат, Архіяпіскап Полацкі». Абедзьве гэтыя кнігі, натуральна, выклікаюць найбольшую цікавасьць у наведвальнікаў выставы.

Усяго за тры гады існаваньня ў выдавецтве «Сафія» пры полацкай грэка-каталіцкай грамадзе выйшла каля паўтара дзясятка кніг.

**Мікола ШАРАХ**

# Чаму ў ліку 28 новамучанікаў, якія беатыфікаваныя Папам Рымскім у Львове, няма экзарха Беларусі Антона Неманцэвіча?

***27 чэрвеня ў Львове падчас сьв. Літургіі ў візантыйскім абрадзе Папа Рымскі Ян Павел II абвесьціў сьвятымі 28 прадстаўнікоў Грэка-Каталіцкай Царквы. Практычна ўсе гэтыя асобы — украінцы, што пацярпелі за вернасьць сваёй Царкве падчас гвалтоўнай ліквідацыі Уніі ў Заходняй Украіне. Але ёсьць і выключэньне. Беатыфікаваны і грэка-каталіцкі Экзарх Расеі айцец Леанід Фёдараў. На першы погляд, беларускі кантэкст у гэтым акце адсутнічае. Але гэта толькі на першы погляд. Ніжэй прапануем увазе чытачоў «Царквы» матэрыял пра ўніяцкіх навамучанікаў, які прагучаў у эфіры Беларускай службы Радыё Свабода 23 чэрвеня 2001 году.***

Сёньня ў Беларусі дзейнічае невялікая Грэка-Каталіцкая Царква, якая налічвае некалькі тысячаў вернікаў. Новыя блаславёныя, безумоўна, будуць шанавацца ўсёй Каталіцкай Царквой па ўсім сьвеце, а значыць і ў Беларусі. Але з іншага боку, людзям заўсёды бліжэй той нябесны апякун і заступнік, які быў нейкім чынам зьвязаны з іх народам, з іх радзімай. У гэтым сэнсе беларускія грэка-католікі павінны ведаць, што прынамсі два з 28 новых сьвятых у сваёй дзейнасьці былі шчыльна зьвязаныя з Беларусьсю.



*Сьвяты мучанік біскуп Мікалай Чарнэцкі*

Грэка-каталіцкі Экзарх Расеі айцец Леанід Фёдараў у 1924 і 26 гадах на запрашэньне магілёўскага дэкана айца Язэпа Белагаловага прыяжджаў у Магілёў для адзначэньня старога ўніяцкага сьвята сьвятога Антонія. Мэтай гэтых прыездаў было адраджэньне Уніі ва Ўсходняй Беларусі. Гэтага не маглі дапусьціць бальшавікі. І вось падчас другога прыезду ў Магілёў ён і быў арыштаваны беларускім ГПУ разам з айцом Язэпам Белагаловым, і абодва яны загінулі. Айцец Фёдараў пакутаваў на Салаўках, а пасьля памёр на выгнаньні ў Вятцы ў 1935 годзе.

Другі новамучанік, біскуп Мікалай Чарнэцкі, мае яшчэ большыя сувязі з Беларусьсю. У 1932 годзе ён быў прызначаны Апостальскім візітатарам для католікаў усходняга абраду ў Польшчы за выключэньнем Галічыны. І вось да самага прыходу саветаў у 1939 годзе біскуп Мікалай Чарнэцкі апекаваўся ўніятамі на Валыні, Падлясьсі і ў Беларусі. А ў Заходняй Беларусі, трэба сказаць, было тады больш за 30 грэка-каталіцкіх парафіяў, а колькасьць вернікаў дасягала 20 тысячаў чалавек. І вось Мікалай Чарнэцкі зьдзяйсьняў рэгулярныя пастырскія паездкі і ў Вільню, і ў Наваградак, і ў Слонім, і ў Пінск. Быў ён, фактычна, пастарам беларусаў. У 1945 годзе ён быў арыштаваны, высланы ў канцлагер у Сібір, цяжка там захварэў і быў выпушчаны ўладамі паміраць на Бацькаўшчыне. Ягоная магіла ў Львове адразу пасьля сьмерці стала месцам паломніцтваў і аздараўленьняў хворых.

Пачынаючы з 1939 году, біскуп Чарнэцкі займаў пасаду Экзарха Валыні. А Экзархам Беларусі быў прызначаны беларускі езуіт усходняга абраду з Альбярціну айцец Антон Неманцэвіч. Ён таксама загінуў мучаніцкай сьмерцю ў нетрах менскага гестапа ў 1942 годзе. Але ягонага імя ня будзе сярод тых, каго Папа Ян Павел II абвесьціць блаславёнымі ў наступную сераду. Чаму? Гэта і ёсьць адно з пытаньняў, якія я задаю сёньня чалавеку, які непасрэдна рыхтаваў кандыдатуры да беатыфікацыі 27 чэрвеня ў Львове. Гэта намесьнік дырэктара Інстытуту гісторыі Царквы Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі доктар Олэг Турый.

***(Абламейка: ) «На пачатку я папрасіў бы Вас, пан Олэг, коратка расказаць пра тых, хто будзе 27 чэрвеня ў Львове абвешчаны сьвятым».***

*(Турый:) «У межах візіту папы падчас Літургіі ў візантыйскім абрадзе ў Львове 27 чэрвеня адбудзецца акт афіцыйнага абвешчаньня сьвятых Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы. Усяго тых асобаў 28. Некаторыя з іх будуць кананізаваныя за сваё мучаніцтва ад рэпрэсіяў, якія яны зазналі ад камуністычнага ўраду падчас першае савецкае акупацыі Галічыны, а таксама пасьля заканчэньня II Сусьветнай вайны, калі адбывалася афіцыйная ліквідацыя Грэка-Каталіцкае Царквы і яе гвалтоўнае далучэньне да падкантрольнай рэжыму Ўкраінскай Праваслаўнай Царквы. Апрача таго, будуць кананізаваныя і некалькі асобаў, якія вызначаліся сьвятасьцю свайго жыцьця. Напрыклад, сястра Язафата Гардашэўская, заснавальніца кангрэгацыі сёстраў-служэбніц Беззаганнае Дзевы Марыі. Будзе сярод кананізаваных і Экзарх Расейскае Грэка-Каталіцкае Царквы айцец Леанід Фёдараў, які пакутаваў на Салаўках і памёр на выгнаньні ў Вятцы ў 1935 годзе. Прыцягвае таксама ўвагу і постаць айца Амельяна Каўча, які падчас апошняй вайны ратаваў габрэяў, трапіў за гэта ў лагер сьмерці Майданэк, адмовіўся ад клопатаў пра яго вызваленьне і загінуў. Будзе сярод беатыфікаваных і постаць закарпацкага япіскапа Тэадора Ромжы, які быў зьнішчаны на загад тагачаснага кіраўніка кампартыі Ўкраіны Хрушчова і з санкцыі Сталіна — дзеля таго, што постаць гэтага папулярнага япіскапа перашкаджала задуманай саветамі праваславізацыі, Тэадора Ромжу спачатку жорстка зьбілі, а пасьля атруцілі ў лякарні. Вось такія, кажучы коратка, постаці тых, хто будзе прылічаны да сьвятых».*

***(Абламейка: ) «Хто займаўся падрыхтоўкай гэтых кандыдатураў?»***

*(Турый:) «Падрыхтоўкай кандыдатураў да афіцыйнага працэсу беатыфікацыі займаўся сьпецыяльны пастуляцыйны цэнтр, і кожная з тых постацяў,— а іх было значна больш чым 28 падрыхтаваных, і гэты працэс не заканчваецца актам кананізацыі 27 чэрвеня, бо, паўтараю, людзей, якія пацярпелі за веру, нашмат больш. Проста подзьвіг гэтых 28 асобаў, іх мучаніцтва найбольш уражваюць сваім сьведчаньнем сілы веры. Апрача таго, шмат хто з тых, каго зараз Царква афіцыйна кананізуе, амаль адразу пасьля сьмерці сярод народу ўжо шанаваліся як сьвятыя. Тут найбольш прыкметнай ёсьць постаць япіскапа Мікалая Чарнэцкага, які быў арыштаваны, доўгі час быў у Сібіры, і з-за цяжкай хваробы ўлады вырашылі адправіць яго паміраць на Бацькаўшчыну. Пасьля вяртаньня ён вызначаўся зьмірэннасьцю і сардэчнасьцю. Пасьля сьмерці яго магіла ў Львове сталася месцам паломніцтва, і ёсьць вельмі шмат сьведчаньняў пра цуды, цудоўныя аздараўленьні, якія адбываліся пасьля зваротаў да яго сьвятой постаці ў малітвах».*

***(Абламейка: ) «Як Вы ведаеце, пан Олэг, у Беларусі таксама існуе невялікая Грэка-Каталіцкая Царква, і, напэўна, яе вернікі зацікаўленыя даведацца, ці магчыма наогул і чаму сталася так, што іх экзарх айцец Антон Неманцэвіч, які загінуў мучаніцкай сьмерцю ў Менскім гестапа ў 1942 годзе, ня трапіў у лік гэтых сьвятых. Як Вы думаеце, чаму?»***

*(Турый:) «Вось жа я думаю, што ёсьць два моманты. Мы тут, у Галічыне, хоць мы і маем досыць вялікую Грэка-Каталіцкую Царкву, якая адрадзілася з руінаў, маем вялікую разбудаваную інфраструктуру, шмат навучальных установаў, дасьледніцкіх цэнтраў, паверце, што мы з велізарнымі намаганьнямі, шалёна працуючы, зьбіраючы па драбніцах інфармацыю пра гэтых людзей, здолелі падрыхтаваць усё неабходнае, каб цэлая Каталіцкая Царква праславіла асобы гэтых 28 мучанікаў. Іх ёсьць нашмат больш, і нашая праца з мэтай збору сьведчаньняў пра цуды, зьбіраньне іншай інфармацыі — гэта аграмадная праца. Мне здаецца, што ў Беларусі праводзіць такую працу дужа цяжка, бо дужа мала засталося тых людзей, якія памятаюць падзеі, зьвязаныя з мучаніцтвам за веру. А, па-другое, я думаю, што сама сітуацыя ў дзяржаве, мякка кажучы, ня ёсьць спрыяльнаю для гэтага.*

*І яшчэ адзін момант. Для таго, каб Царква прызнала тую ці іншую асобу сьвятой, вельмі важна, каб усьведамленьне гэтай сьвятасьці існавала сярод саміх вернікаў. Ясна, што важным ёсьць і фармальная працэдура, якая існуе ў Каталіцкай Царкве, усе яе ступені, але дужа важным ёсьць усьведамленьне менавіта людзьмі сьвятасьці той ці іншай асобы. Я думаю, што грэка-католікі ў Беларусі павінныя ісьці гэтым шляхам, яны павінныя адшукваць карані сваёй Царквы, зьбіраць па драбніцах інфармацыю пра сваіх мучанікаў. Я думаю, што ўсё гэта прыйдзе — я перакананы ў гэтым і хачу сказаць, што наш Інстытут гісторыі Царквы, які працуе ў Львоўскай Багаслоўскай Акадэміі і які мае цэлы праект зьбіраньня сьведчаньняў пра мучанікаў веры, гатовы дапамагчы грэка-католікам у Беларусі».*

***Дзякуй, Пан Олэг.***

Працяг на с.9 ⇨

# Царква паўстае з нябыту

У той сонечны веснавы дзень рознымі дарогамі (для адных — караценькімі, для іншых — шматкіламетровымі) сьцякаліся ў Івацэвічы людзі. Зьбіраліся яны сюды са Слоніму і з Косаўшчыны, з Пінску і Берасьця, і нават з Менску і Горадні. Што вяло іх у наш горад? Імкненьне адзіных сэрцаў памаліцца разам. Зьвярнуцца да Маці Божай Жыровіцкай, каб ахінула нас, вернікаў, сваім покрывам, каб умацавала ў нас веру, надала сілы, цярплівасьці ўсім, хто ідзе па крыжовым шляху адраджэньня нашае беларускае Царквы.

7 траўня — сьветлы дзень для вернікаў Івацэвіцкай парафіі іконы Маці Божай Жыровіцкай, у гэты дзень мы маем нашае парафіяльнае сьвята. А з гэтага году 7 траўня — гэта яшчэ й Дзень малітваў за Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву.

Распачалося сьвята нязвыкла. Па запрашэньні мясцовай грэка-каталіцкай парафіі і сябраў Таварыства беларускай мовы ў Івацэвічы прыехалі вядомы беларускі паэт Рыгор Барадулін і выканаўца бардаўскіх песень Алесь Камоцкі, якія прапанавалі нам свой сумесны праект «Псальмы». Напярэдадні яны выступілі яшчэ і ў школе, дзе іх вельмі цёпла сустрэлі дзеці і настаўнікі. Для многіх была нечаканай такая шчырая вера славутага беларускага паэта Рыгора Барадуліна і ягоная адданасьць Уніяцкай Царкве.

Многія сабраліся яшчэ напярэдадні сьвята — бо была рэдкая магчымасьць для вернікаў сустрэцца ў добрым сяброўскім коле з айцом Ігарам, паэтам Рыгорам Барадуліным, бардамі Алесем Камоцкім і Віктарам Шалкевічам, пагутарыць з імі пра жыцьцё, пра Бога, паслухаць песьні ля вячэрняга вогнішча.

Госьці з Менску ўсьцешылі нас сваёй праграмай «Псальмы». Творамі на біблейскія сюжэты яны ўзьнімалі нашыя сэрцы да новых вышыняў, прасьвятлялі нашыя душы. Слова Божае разьлівалася, запальваючы цёплыя іскрыначкі любові да Ўсявышняга, да Бога. Слава Табе, Госпадзе!

Найвышэйшы акорд сьвята — Боская Літургія. Правіў яе душпастыр для грэка-католікаў Берасьцейшчыны а. Ігар Кандрацьеў. Час пранікнёных, узрушаных малітваў. Стан душы, калі сэрцы прагнуць угору, прагнуць ачышчэньня, прагнуць ласкі і міласэрнасьці Божай. Ахопленыя такім узрушэньнем, маліліся мы за нашую сьвятую царкву, за заснавальнікаў і дабрачынцаў яе, за шматпакутную краіну Беларусь і беларускі народ, за горад Івацэвічы...




*Душпастыр для грэка-католікаў Берасьцейскай вобласьці а. Ігар Кандрацьеў прадстаўляе на сустрэчы ў івацэвіцкай школе гасьцей — народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна і барда Алеся Камоцкага.*




Сярод нашых малітваў у гэты дзень была адмысловая малітва за ўсю Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву. Царкву з вялікай гісторыяй. Як бы і хто не чыніў супраціў, а факт застаецца фактам: амаль тры стагоддзі (XVI-XIX ст.) існавала Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква. Называлі яе ў той час «уніяцкай». Зьяднанай значыць. Бо Унія, якая была падпісана ў Берасьці ў 1596 годзе, зьяднала падзеленую на той час Царкву візантыйскай і лацінскай традыцыі ў адно цела, пакідаючы права на ўласныя абрады, рытуалы. Менавіта ва Ўніяцкай Царкве заставалася ў тыя складаныя часы наша родная мова, а сама Царква яднала наш народ і спрыяла росту нацыянальнай сьвядомасьці.

Ішоў час. Расейская імперыя праглынула Беларусь. Русіфікацыя пачалася са зьнішчэньня Беларускай Уніяцкай Царквы. Пачаўся яе крыжовы шлях. Пачаліся рэпрэсіі. Многае, што было створана на працягу стагоддзяў, разбуралася, перараблялася на чужынскі лад. Здавалася, гэта назусім. Назусім?

А Бог распараджаецца па-свойму. Колькі год таму разам з іншымі вернікамі я ішла на першае сьвята парафіі ў гонар іконы Маці Божай Жыровіцкай. Сабраліся тады ў малюсенькай пабудове, накшталт хлеўчыка, часова прыстасаванай для адпраўленьня набажэнстваў. Колькі тады было малітваў, зваротаў да апякункі хрысьціянаў, да Хадайніцы нашай паміж Небам і зямлёю, да Заступніцы нашай. Словы пачутыя?

На сьвяточныя ўрачыстасьці ў Івацэвіцкай парафіі сабралася каля сотні вернікаў. Слава Госпаду! Аднак найвялікшы дар — мы сталі іншымі, умацавалася наша вера ў Госпада Ісуса Хрыста як Збаўцу нашых душаў.

Напрыканцы сьвята пра беларусаў і Беларусь сьпяваў гарадзенскі бард Віктар Шалкевіч.

На крыжовым шляху нашае Царквы запаліліся агеньчыкі адраджэньня. Дзіўна? Яшчэ як! Ня інакш Божы провід гэта. Мы маем магчымасьць на сваёй роднай, Богам дадзенай нам беларускай мове, зьвяртацца да Ўладара ўладароў і прасіць яго пра зьмілаваньне, каб усе хрысьціяне былі разам, каб паўстала з нябыту, руінаў наша беларуская Царква і зноў стала душою нацыі.

Божа, захавай нашу Царкву ў Тваёй сьвятасьці!

**Ніна Чыкіта**
*г. Івацэвічы*

# Юбілейная пілігрымка Папы Рымскага Яна Паўла II у Грэцыю, Сірыю і на Мальту

*(4-9 траўня 2001 году)*

## Афіны

Афіны былі месцам пачатку пілігрымкі Сьвятога Айца Яна Паўла II сьлядамі сьвятога Паўла. Не зважаючы на тое, што гэтая пілігрымка адбывалася ўжо пасьля заканчэньня Юбілейнага Году, яна насіла ўсё ж менавіта юбілейны характар. Сьвяты Айцец прыбыў у Афіны на запрашэньне прэзідэнта Грэцыі Канстанцінаса Стэфанопуласа. Перашаярарх Праваслаўнай Царквы Элады ды Сьвяты Сінод выказалі сваю згоду на гэтую пілігрымку.

Ян Павел II прыляцеў у Афіны самалётам 4 мая 2001 году ў 11 гадз. У аэрапорце яго сустракаў адзін з міністраў Грэцыі, Апостальскі нунцый у Грэцыі архібіскуп Пол Табэт і каталіцкі (лацінскі) архібіскуп Афінаў Ніколаос Фоскалас. Папа, як наступнік сьв. Пятра, пацалаваў грэцкую зямлю, якую падалі яму ў кошыку двое дзяцей (зямля была з праваслаўнага манастыра), а затым накіраваўся на аўтамабілі да прэзідэнцкага палацу. Там адбылося афіцыйнае прывітаньне, пасьля чаго Сьвяты Айцец меў размовы з прэзідэнтам, прэм'ерам і кіраўніком парламенту.



*Афіны, 4.05.2001. Сустрэча Сьвятога Айца Яна Паўла II з першаярархам Праваслаўнай Царквы Грэцыі архібіскупам Хрыстадулам.*

З прэзідэнцкага палацу Ян Павел II накіраваўся да сядзібы першаярарха Праваслаўнай Царквы Грэцыі — Архібіскупа Афінаў і ўсёй Элады Хрыстадула, дзе ён сустрэўся з Архібіскупам Хрыстадулам, сябрамі Сьвятога Сіноду Царквы Элады ды іншымі праваслаўнымі грэцкімі ярархамі.

У сваёй прамове Папа Ян Павел II запэўніў сабраных у сваёй зычлівасьці ды пашане Рымскай Царквы адносна Праваслаўнай Царквы і адзначыў: «За ўсе даўнія і сучасныя сітуацыі, у якіх сыны і дочкі Каталіцкай Царквы зграшылі ўчынкам або занядбаньнем супраць сваіх праваслаўных братоў і сёстраў, няхай Госпад удзеліць нам прабачэньне, пра якое Яго просім». Асобна Сьвяты Айцец выказаў сваё глыбокае шкадаваньне з прычыны жорсткага рабаўніцтва Канстанцінопаля, якое ўчынілі крыжакі падчас IV крыжовага паходу ў 1204 годзе. Напрыканцы сустрэчы абодва першаярархі — Папа Ян Павел II і Архібіскуп Хрыстадул падпісалі Сумесную Дэкларацыю.

Затым у Апостальскай нунцыятуры Сьвяты Айцец спаткаўся на абедзе з каталіцкімі біскупамі Грэцыі. Пасьля палудня ён наведаў каталіцкую (лацінскую) катэдру сьв. Дыяніса Арэапагіта, дзе меў сустрэчу з клірам, манахамі ды манахінямі, якія працуюць у Грэцыі.

Узьнёслым момантам гэтага дня была пілігрымка Яна Паўла II на Арэапаг — скалістае ўзгор'е непадалёку ад Акрополя, дзе ў старажытнасьці адбываліся пасяджэньні афінскага трыбуналу і дзе сьв. Павел меў сваю слынную прамову, якая запісана ў 17-ым разьдзеле Апостальскіх Дзеяньняў. Ян Павел II прыбыў туды на аўтамабілі каля 18.30 гадз. Вітаў яго Архібіскуп Хрыстадул, а затым абодва першаярархі ўшанавалі ікону сьв. Паўла. Па-грэцку і па-ангельску быў прачытаны тэкст Дзеяньняў (Дз 17, 22-34), а таксама раней падпісаная Сумесная Дэкларацыя, у якой Папа і Архібіскуп запэўніваюць, што будуць «прыкладаць усе намаганьні для ўсталяваньня міру ва ўсім сьвеце, для шанаваньня жыцьця і чалавечай годнасьці, для салідарнасьці з усімі, хто патрабуе дапамогі».

У сустрэчы, апрача царкоўных прадстаўнікоў, браў удзел прэзідэнт Грэцыі, прадстаўнікі дзяржаўных уладаў, дыпламатычнага корпусу і некалькі сотняў вернікаў.

Яшчэ ў той самы вечар у Апостальскай нунцыятуры Папа прыняў з візітам ветлівасьці ў адказ Архібіскупа Хрыстадула і чатырох грэцкіх праваслаўных ярархаў. Напрыканцы па-грэцку была прачытана малітва «Ойча наш».

У суботу, 5 траўня, зранку ў афінскім Палацы спорту Сьвяты Айцец Ян Павел II служыў сьвятую Імшу (па-лацінску, па-грэцку ды па-французску), падчас якой яму саслужылі ярархі і 40 сьвятароў. У Еўхарыстыі бралі ўдзел каля 18 000 вернікаў розных нацыянальнасьцяў: лацінскія каталікі (грэкі, палякі, філіпінцы) ды каталікі ўсходніх абрадаў — грэкі, армяне, а таксама ўкраінцы ды халдэйцы, якія працуюць у Грэцыі.

З Палацу спорту Папа накіраваўся ў аэрапорт і пасьля цырымоніі разьвітаньня з удзелам грэцкага віцэ-міністра замежных справаў, адляцеў на самалёце ў Дамаск (Сірыя).

У прэсе падкрэсьлівалася, што Ян Павел II крануў сэрцы многіх праваслаўных грэкаў, асабліва сваімі словамі, поўнымі пашаны да Праваслаўнай Царквы ды словамі з просьбай аб прабачэньні правінаў, зьдзейсьненых хрысьціянамі Захаду.

## Сірыя

Візіт Яна Паўла II ў Сірыю быў з розных пунктаў гледжаньня выключны. Не зважаючы, што большасьць у гэтай краіне складаюць мусульмане (каля 86%), Папу віталі там вельмі сардэчна. Хрысьціяне (іх каля 10%), нягледзячы на тое, што належаць да розных Цэркваў, перажывалі гэты візіт разам, у поўнай еднасьці. Падрыхтоўчы камітэт узначальвалі тры патрыярхі: грэка-каталіцкі (мельхіцкі), грэка-праваслаўны ды сіра-артадаксальны. Так было падчас падрыхтоўкі, так было і ў часе самой пілігрымкі Сьвятога Айца.

Грэка-каталіцкі архімандрыт Стэфан Костэр з Нямеччыны (дырэктар «Kirche in Not»), які часта бывае на Блізкім Усходзе, падкрэсьліў прэцэдэнтны характар візіту: падчас яго тры патрыярхі Антыёхіі (сіра-артадаксальны, грэка-праваслаўны ды грэка-каталіцкі) сустракаліся некалькі разоў з Папам Рымскім.

Першай хрысьціянскай сьвятыняй, якую наведаў у Сірыі 5 траўня 2001 году Папа Ян Павел II, была грэка-праваслаўная Ўсьпенская катэдра ў Дамаску, у якой мела месца экуменічная малітоўная сустрэча. У гэты час катэдра была проста перапоўненая вернікамі розных хрысьціянскіх Цэркваў. З каталіцкага боку ў гэтым багаслужэньні разам са Сьвятым Айцом маліліся ўсходнія каталіцкія патрыярхі, біскупы Сірыі, а таксама кардыналы і біскупы, што суправаджалі Папу. Гаспадаром спатканьня быў грэка-праваслаўны патрыярх Антыёхіі — Ігнат IV Гасім, якому дапамагаў сіра-артадаксальны патрыярх Антыёхіі Ігнат Закка I Іўас.

Папа і патрыярх Ігнат IV зрабілі перад алтаром сумеснае вызнаньне веры, а затым мелі казаньне, перадалі адзін аднаму знак міру і абмяняліся падарункамі. Сьвяты Айцец атрымаў у дар тры патрыяршыя панагіі.

У нядзелю, 6 траўня 2001 году, Сьвятога Айца Яна Паўла II прымаў грэка-каталіцкі патрыярх Антыёхіі Рыгор III Лахам. На перапоўненым вернікамі розных Цэркваў стадыёне Аббасідаў у Дамаску Папа адправіў сьвятую Імшу ў лацінскім абрадзе з элементамі розных усходніх літургіяў. Саслужылі Яну Паўлу II патрыярхі, біскупы ды сьвятары Ўсходніх Каталіцкіх Цэркваў: Грэка-Каталіцкай (Мельхіцкай), Сіра-Каталіцкай, Армяна-Каталіцкай, Халдэйскай, Мараніцкай ды Копцкай, а таксама лацінскія ярархі ды сьвятары з Блізкага Ўсходу.

Пасьля палудня 6 траўня ў сіра-артадаксальнай катэдры сьв. Яна Паўла II адбылася сустрэча з ярархамі, духавенствам, прадстаўнікамі мужчынскіх і жаночых манаскіх супольнасьцяў ды сьвецкімі вернікамі ўсіх хрысьціянскіх Цэркваў Сірыі (у тым ліку й прадстаўнікамі пратэстанцкіх супольнасьцяў) — гэта было чарговая важная экуменічная падзея ў часе падарожжа Сьвятога Айца.

Гістарычнай падзеяй дня 6 траўня 2001 году стаў візіт Яна Паўла II у мячэць Амаядаў. Ян Павел II, як першы ў гісторыі папа, пабываў у мячэці. Мячэць Амаядаў у Дамаску была пабудаваная ў VIII стагоддзі на месцы, дзе раней знаходзілася хрысьціянская сьвятыня сьв. Яна Хрысьціцеля. У гэтай мячэці ў сьпецыяльным маўзалеі мусульмане захоўваюць галаву сьв. Яна Хрысьціцеля, якога таксама шануюць у ісламе як прарока Ях'я. На пад-



*Дамаск, 6.05.2001. Экуменічная сустрэча з прадстаўнікамі ўсіх хрысьціянскіх Цэркваў Сірыі ў сіра-артадаксальнай катэдры сьв. Юра (леваруч Папы грэка-праваслаўны патрыярх Антыёхіі Ігнат IV Гасім, праваруч — сіра-артадаксальны патрыярх Антыёхіі Ігнат Закка I Іўас).*



*Дамаск, 5.05.2001. Экуменічная малітоўная сустрэча ў грэка-праваслаўнай Усьпенскай катэдры.*



*Дамаск, 6.05.2001. Сустрэча Папы Рымскага з Вялікім Муфціем Сірыі ў мячэці Амаядаў.*



*Дамаск, 7.05.2001. Сустрэча з моладдзю ў грэка-каталіцкай (мельхіцкай) катэдры (праваруч Папы грэка-каталіцкі патрыярх Антыёхіі Рыгор III Лахам, грэка-праваслаўны патрыярх Антыёхіі Ігнат IV Гасім, армяна-каталіцкі патрыярх Кілікіі Нэрсес Пётр XIX Тармуні.*

ворку мячэці Амаядаў адбылося спатканьне Папы з Вялікім Муфціем Сірыі — 86-гадовым Ахмадам Куфтаро і прадстаўнікамі ісламу.

У панядзелак, 7 траўня, Сьвяты Айцец наведаў старажытны храм сьв. Паўла, узьведзены на месцы, дзе вучні Паўлавы яго, які ўцякаў з Дамаску, «уначы спусьцілі праз мур у карзіне» (Дз 9, 25). Пасьля гэтага Папа пабываў у адмысловым мемарыяле сьв. Паўла пры браме Баб-эш-Шаркі, дзе мела месца навяртаньне апостала Паўла.

З Дамаску Сьвяты Айцец накіраваўся на аўтамабілі ў Кунэйтру (ля падножжа Галанскага ўзгор'я на мяжы з Ізраілем), дзе ў грэка-праваслаўным храме (пашкоджаным ізраільскай арміяй у 1974 г.) Сьвяты Айцец Ян Павел II маліўся за мір у Сьвятой Зямлі і ва ўсім сьвеце.



*Кунэйтра, 7.05.2001. У грэка-праваслаўным храме, які быў пашкоджаны ў часе вайны з Ізраілем, Сьвяты Айцец чытае малітву за мір у Сьвятой Зямлі і ва ўсім сьвеце.*

Пасьля палудня 7 траўня 2001 году Ян Павел II у грэка-каталіцкай (мельхіцкай) Усьпенскай катэдры Дамаску сустракаўся з моладдзю. Сьвятыня не магла зьмясьціць усіх удзельнікаў, таму значная частка іх разьмясьцілася на трох пляцах вакол катэдры, дзе ўсе маглі назіраць за падзеямі, дзякуючы вялікім тэлевізійным экранам. Разам з моладдзю ў спатканьні бралі ўдзел ярархі хрысьціянскіх Цэркваў Сірыі.

У прэсе пісалі, што візіт Яна Паўла II у Сірыю — гэта сапраўдная «вясельная ўрачыстасьць праваслаўных і католікаў». Несумненна, гэта быў час радаснага братэрства грэка-католікаў, грэка-праваслаўных, сіра-католікаў, сіра-артадаксальных ды іншых хрысьціянаў вакол Папы Рымскага, час умацаваньня веры ў адзінага Госпада, час брацкай любові. Візіт гэты прынёс усім вялікае духоўнае дабро.

Ранкам у аўторак 8 траўня 2001 году, пасьля афіцыйнага разьвітаньня на лётнішчы, Сьвяты Айцец Ян Павел II пакінуў Дамаск і накіраваўся на Мальту.

## Мальта

Ян Павел II ужо ў трэці раз наведаў Мальту. Папярэднія візіты яго былі ў траўні і верасьні 1990 году. 8 траўня Папа меў афіцыйную сустрэчу з прэзідэнтам і прадстаўнікамі ўраду краіны.

У сераду, 9 траўня, Сьвяты Айцец Ян Павел II у сталіцы краіны Ла-Валеце адправіў сьв. Імшу, падчас якой беатыфікаваў 3 мальтыйскіх блаславёных: Юрыя Прэку, Ігната Фальзона ды Марыю Адэадату Пізані. Сьвятую Імшу саслужылі кардыналы, мальтыйскія біскупы ды 900 сьвятароў.

Пасьля ўрачыстага набажэнства ды афіцыйнага разьвітаньня Ян Павел II адляцеў у Рым. Гэта была 93-я апостальская пілігрымка Яна Паўла II за межы Італіі.

**Айцец Станіслаў Коза**



*Ла-Валета (Мальта), 9.05.2001. Сьв. Імша, падчас якой Папа беатыфікаваў 3 мальтыйскіх блаславёных.*

# Чаму ў ліку 28 новамучанікаў, якія беатыфікаваныя Папам Рымскім у Львове, няма экзарха Беларусі Антона Неманцэвіча?

⇨ *Заканчэньне са с.6*

Як мы чулі, доктар Олэг Турый спаслаўся на вельмі вялікую і цяжкую працу, якую трэба правесьці, каб па драбніцах сабраць усю патрэбную інфармацыю па той ці іншай кандыдатуры будучага сьвятога. З другога боку, трэба каб і мясцовая Царква ўжо шанавала тых людзей, якія пасьля будуць абвешчаныя сьвятымі ўсёй Каталіцкай Царквы. У Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве, якая ўсяго 10 год як адроджаная, сёньня такімі шанаванымі асобамі ёсьць толькі полацкія пакутнікі-базыльяне, жорстка закатаваныя расейскім царом Пятром І у Полацкай Сафіі ў пачатку 18 стагоддзя. Да экзарха Антона Неманцэвіча і за ягонае праслаўленьне сёньня яшчэ ня моляцца. А гэта, між іншым, вельмі заслужаны для Беларусі чалавек. Ён амаль адзін у 30-я гады выдаваў часопіс «Да злучэньня», які быў закрыты польскімі ўладамі, палымяны патрыёт і вельмі пабожны чалавек. Натуральна, што ў савецкія часы экзарх Неманцэвіч быў аб'ектам вострай крытыкі савецкіх прапагандыстаў. Быў нават апублікаваны здымак Антона Неманцэвіча ў сьвятарскіх шатах на фоне нямецкіх вайскоўцаў. Натуральна, пра тое, што экзарх загінуў у менскім гестапа, прапагандысты ня згадвалі. Гэтыя абвінавачаньні ў калабаранцтве можна было б ня згадваць і сёньня, каб не наступная акалічнасьць. Аднойчы ў Рыме мне давялося пачуць пра той жа здымак з вуснаў супрацоўніка беларускай секцыі Радыё Ватыкану, доктара гісторыі Андрэя Пятчыца. Можа, гэтая акалічнасьць перашкаджае ўнесьці беларускага сьвятара ў лік кандыдатаў на беатыфікацыю? Вось якую думку выказвае айцец Аляксандр Надсан, чаму імя Антона Неманцэвіча ня трапіла ў лік 28 кандыдатаў на беатыфікацыю.

*(а. Надсан: ) «Мне здаецца, тут адна прычына. Пра экзарха Фёдарава вельмі шмат вядома, нават пра тое, як ён вельмі шмат гадоў быў у турме і як ён там захоўваўся. Пра айца Неманцэвіча вядома вельмі ж мала. У параўнаньні з іншымі сьвятарамі, напрыклад, айцом Гадлеўскім ці (яшчэ больш) Адамам Станкевічам, ён быў вельмі мала вядомы ў Беларусі. І весткі пра яго маленькія. Толькі пасьля выбуху сусьветнай вайны ў 1939 годзе мітрапаліт Шаптыцкі прызначыў яго экзархам на Беларусь, і там ён пачаў дзейнічаць, але вельмі нядоўга. Ён загінуў у 1942 годзе. Я чуў, што пра яго былі даносы з боку расейцаў, якія працавалі ў нямецкім СД у Слоніме і якія не хацелі адраджэньня Уніі. Але як было ў сапраўднасьці — невядома. Я напэўна ўважаю, што ён добры чалавек і добры сьвятар. Але для таго, каб яго агалосіць блаславёным ці сьвятым, думаю, трэба сабраць больш зьвестак. Можа, яшчэ ёсьць людзі, якія яго памятаюць, можа, нейкія запісы ёсьць. Да гэтага часу пра яго вельмі мала вядома».*

***(Абламейка: ) «Як Вы лічыце, айцец Аляксандр, тое, што экзарх Неманцэвіч быў прызначаны і экзархат быў створаны толькі ў 1939 годзе, а выйшаў экзарх з падпольля толькі ў часе нямецкай акупацыі,— ці можа гэта быць закідам Неманцэвічу? Ці наогул, факт працы пад нямецкай акупацыяй можа быць аргумэнтам супраць беатыфікацыі Неманцэвіча?»***

*(а. Надсан: ) «Не. Ён быў заўсёды сьвятаром. Рабіў што мог. Пад нямецкай акупацыяй працаваў таксама мітрапаліт Шаптыцкі і ўсе іншыя сьвятары — рабілі што маглі. Адносна ягоных адносінаў да нямецкіх уладаў я нічога ня ведаю. Я чуў, што там нейкі здымак ёсьць, дзе ён стаіць з нямецкімі афіцэрамі ці войскам. Ну, гэта бывае, чаму ж не?»*

***Дзякуй, айцец Аляксандр.***

Сапраўды, усе тыя, хто 27 чэрвеня будзе абвешчаны блаславёным, працавалі сьвятарамі і ў часе вайны. Маглі яны сустракацца і з немцамі. Няма сумневу, што такія сустрэчы былі, напрыклад, і ў мітрапаліта Шаптыцкага, які сёньня ўжо шануецца як сьвяты. І Олэг Турый, і айцец Аляксандр Надсан зьвярнулі ўвагу на вельмі малую колькасьць зьвестак пра Антона Неманцэвіча, пра яго жыцьцё і сьмерць. Таму сёньня перад беларускімі вернікамі, якія хацелі б, каб іх памерлы мучаніцкай сьмерцю экзарх быў ушанаваны як сьвяты, паўстае задача зьбіраньня інфармацыі. Наколькі мне вядома, БГКЦ сёньня мае ўжо кваліфікаваных гісторыкаў, якія здольныя адшукаць патрэбныя зьвесткі.

**Сяргей Абламейка,** *Прага*

(Беларуская служба Радыё Свабода, www.svaboda.org, 23 чэрвеня 2001 году)

# Госпадзе, добра нам тут быць!



Удзельнікі летніку ў Івацэвічах.

*«Пусьціце дзетак і не забараняйце ім прыходзіць да Мяне» (Мц 19, 14).*

Рэалізацыяй гэтых Хрыстовых словаў, якія актуальныя на ўсе вякі, стаў летнік для дзяцей у Івацэвічах. У летніку былі дзеці з нядзельнай школы пры парафіі сьв. братоў апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці, а таксама дзеці са Слоніму і Пінску. Мне пашанцавала трапіць у гэты летнік. Галоўнай мэтай гэтага летніку было стварэньне з розных дзетак адзінай хрысьціянскай супольнасьці, у якой бы прысутнічаў «адзіны Дух і адно сэрца».

Дзецям такое сумеснае правядзеньне часу вельмі спадабалася, бо адказная за арганізацыю летніка сп-ня Алена Грынкевіч вельмі добра навучала хрысьціянскім паводзінам, дапамагала адкрыцца Богу праз гульні. Таму дзеці з вялікай ахвотаю ўсё гэта ўспрымалі. У летніку а. Ігар Кандрацьеў штодзённа служыў сьв. Літургію для дзяцей. Дзеці вывучылі шмат песьняў на роднай мове. Вельмі важна, што ў час летніку дзеці мелі магчымасьць (і нават абавязак) размаўляць на роднай беларускай мове, маліцца і сьпяваць на ёй — як заклікаў у сваім апошнім велікодным пасланьні да вернікаў БГКЦ і моладзі Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі найвялебны архімандрыт Сяргей Гаек.

Распарадак дня быў вельмі добра прадуманы. Малітва была як літургічная, так і спантанная, у якой дзеткі вучыліся складаць свае просьбы да Бога. Яны вучыліся маліцца за сяброў і Бацькаўшчыну, вучыліся прабачаць крыўды, любіць адзін аднаго. Вельмі важна, што дзецьмі ў летніку апекаваўся сьвятар — айцец Ігар з Берасьця — і дзеці мелі магчымасьць бачыць яго ня толькі перад алтаром, але і кантактаваць з ім у штодзённым жыцьці, што было жывым сьведчаньнем.

Вялікую дапамогу ў арганізацыі і працы летніку аказалі старшыні пінскай ды івацэвіцкай парафіяў — Павел Ляхновіч і Вячаслаў Гарчакоў. Яны прыклалі шмат намаганьняў для таго, каб летнік добра запомніўся дзецям. Таксама свой уклад у правядзеньне летніку ўнесьлі Натальля Асмалоўская з Пінску і Марына Тарашкевіч з Берасьця. Усе яны атрымалі добры досьвед для будучай працы з дзецьмі.

Працяг на с.16 ⇨

# Гэты летнік быў такі цудоўны!

Адразу пасьля заканчэньня заняткаў у нядзельнай школе мы паехалі ў летнік у Івацэвічы. Гэты летнік быў вельмі цудоўны. Там мы адчулі ўволю дабра, любові адзін да аднаго. Вельмі спадабаліся гульні і тыя людзі, якія іх праводзілі. Вельмі добра было, што нас вучылі ня крыўдзіць адзін аднаго, не дазвалялі гаварыць кепскіх словаў адзін аднаму.

У летніку мы глыбей адчулі Бога, бліжэй з Ім пазнаёміліся. Кожную раніцу, калі мы маліліся Богу, мы адчувалі Ягоную прысутнасьць і захоўвалі гэтае пачуцьцё на ўвесь дзень. Кожны дзень мы сьпявалі песьні для душы. Добра, што перад ежаю мы кожны раз абавязкова маліліся. У летніку ў мяне нарадзіліся вось гэтыя радкі, якімі я захацела ўславіць Бога:

*Я крочу за Богам,*
*Я шлю Яму*
*Свае маленьні.*
*У кепскую хвіліну*
*Станаўлюся на калені*
*І ціха малюся.*
*З вачэй льюцца сьлёзы,*
*Сьлёзы любові*
*І радасьці вечнай.*
*І анёл сьвяты*
*Зышоў да мяне.*
*Я ўсклікнула голасна:*
*— О Божа, я люблю*
*Цябе вельмі,*
*Я стала на калені*
*Маліцца Табе.*
*Прымі мяне*
*Ў Валадарства Сваё.*

А таксама я склала вось такую «Малітву»:

*Прымі, Божа,*
*Малітву маю,*
*Якую я ўздымаю*
*Да Цябе.*
*Прабач мне грахі мае,*
*Бо часам я сыходжу*
*Са шляху Твайго,*
*Ды іду супраць яго.*
*Дапамажы вярнуцца*
*Да Цябе, мой Божа,*
*Каб быць побач з Табой*
*Да канца сваіх дзён*
*І жаць добры плён.*

Мы жылі ў коле дарослых людзей, якія нас добра разумелі. Яны вучылі нас дабру. Усім нам было цікава і весела. Дарослыя сьпявалі з намі песьні, у якіх мы славілі Бога, хадзілі з намі ў лес, вазілі на Бабровіцкае возера, дзе мы маглі ўволю нагуляцца. Гэтыя гульні былі павучальныя, што вельмі добра. Нам гэта падабалася.

Хораша было ў Косаўскім палацы. Запомніліся гульні на прыродзе, асабліва спадабаліся спаборніцтвы на меткасьць. Тут, у лесе, мы таксама паказвалі адзін аднаму нейкі сюжэт з Бібліі.

Гэты тыдзень у Івацэвічах быў для нас вельмі насычаны і цікавы. І нават нягледзячы на кепскае надвор’е, мы ўвесь час былі вясёлыя і радасныя. Усім хацелася, каб летнік быў даўжэй, бо час сумеснага адпачынку праляцеў зусім незаўважна. У летніку мы ўсе былі як адна сям’я. Гэта было так цудоўна!

**Юля МАРЧУК**
*г.Берасьце*



Дзіцячы лагер на Бабровіцкім возеры.

# Прыйдзіце, паклонімся!

*Прыйдзіце, будзем пяяць Госпаду,*
*прыйдзіце, паклонімся.*

7 красавіка гэтага году ў Берасьцейскай грэка-каталіцкай парафіі адбылася экуменічная сустрэча на падставе малітваў і сьпеваў супольнасьці Тэзэ. У ёй прымалі ўдзел вернікі нашай парафіі, моладзь з рыма-каталіцкага касьцёлу і некалькі чалавек з праваслаўнай царквы.

Хацелася б падзяліцца тымі ўражаньнямі, што засталіся пасьля яе.

Запомнілася... Пераступаеш парог царквы, і там, за парогам, застаюцца трывогі й мітусьня. Тут — іншасьвет. Тут — спакой і прысутнасьць неба.

Запомнілася... Вечар. Паўзмрок царквы. Некалькі сьвечак асьвятляюць людзкія твары, зіхоткімі водблескамі адлюстроўваюцца ў іхніх вачах. Свае маленькія сьвечкі запальваюць 12 юнакоў і дзяўчат, нібыта тыя 12 апосталаў, сэрцаў якіх найперш кранулася сьвятло Боскай любові, а потым яны панесьлі яго ўсім людзям, усяму сьвету. Пасьля яны падыходзяць да кожнага з нас, і вось ужо і ў нашых руках гарыць маленькі агеньчык. Хто мы такія? Маленькія сьвечкі. Жывем, каб несьці сьвятло любові, дабрыні, міласэрнасьці тым, хто вакол нас: нашым родным, сябрам, знаёмым проста людзям, што выпадкова сустрэнуцца нам на вуліцы. Каб у песьнях, якія напішуць нашыя наступнікі, ня было словаў: «У цемры ідзем...»

Запомнілася... Панаваньне духу еднасьці, дабрыні, узаемаразуменьня. Паяднаньне праз малітву і агульнае імкненьне да Бога, да сьвятла. Падумалася, што гэта людзі стварылі на зямлі шмат розных Цэркваў і часта ў гардыні сваёй лічаць, што толькі яны робяць правільна. А Госпад няспынна будуе Сваю Нябесную Царкву з тых, хто з адкрытаю душою прыходзіць да Яго.

Запомнілася... Нібыта словамі песьні «Будзь са мной, маліся, чувай...» Госпад зьвяртаецца да нас, просіць заўсёды быць разам з Ім. Ён кліча да Сябе, кліча кожнага з нас...

Запомніліся словы Евангельля. Хрыстос у Гефсіманскім садзе. Апосталы, якія заснулі. Ягоная малітва, туга, адзінота. Здрада Юды. Прадказаньне адрачэньня Пятра... Мне ж захацелася памаліцца за Беларусь, за людзей, што некалі жылі тут, што жывуць сёньня:

Госпадзе, даруй нам, бо здрадзілі Табе, адракліся ад Цябе.

Госпадзе, даруй нам, бо мы не зьберагл і, зруйнавалі храмы Твае.

Госпадзе, даруй нам, бо мы занядбалі храмы душаў нашых.

Госпадзе, даруй нам, бо мы ганарыліся й здраджвалі, падманвалі й ненавідзелі, зайздросьцілі й зьневажалі.

Госпадзе, даруй нам, бо найлепшых сыноў зямлі нашай не ўратавалі, аддалі на зьдзек у ГУЛАГу і Курапатах.

Госпадзе, даруй нам, бо здрадзілі Радзіме, забыліся яе мову й гісторыю.

Госпадзе, мы хочам вярнуцца да Цябе, дапамажы нам!..

*Прашу Цябе аб літасьці, мой Бог,*
*Да душаў кволых, што ня маюць веры.*
*Ты прывядзі іх ціха на парог,*
*Царквы Сваёй Ты адчыні ім дзьверы.*

*Няхай пазбудуцца ўсіх сваіх трывог.*
*Адкрыюць сэрцы, хворыя хімерай,*
*Тваёй любові, Найсьвятлейшы Бог,*
*Каб з ёй ісьці, з надзеяю і верай.*

*Каб пасьля ўсіх цяжкіх жыцьця дарог,*
*Дабра і зла спазнаўшы поўнай меру,*
*Заўжды вяртацца ў храм, дзе Міласэрны Бог*
*У Нябёсы чыстыя Свае адчыніць дзьверы.*

**Надзея ЯРМІШЫНА**
*в.Брадзяцін, Маларыцкі р-н*

# Дабрачынная акцыя гарадзенскіх вернікаў

Вясною цешыцца кожнае стварэньне: абуджэньне прыроды, водар лесу, шчабятаньне птушак, вясёлая гамана гарэзьлівых дзяцей, што выбеглі пад промні ласкавага сонейка. Для хрысьціянаў вясна — гэта найперш Вялікдзень. Дзень па-над днямі. Гарадзенскія грамады каталікоў-беларусаў абодвух абрадаў вырашылі данесьці сёлета гэтую вестку ў дзіцячы дом зьмешанага тыпу аднаго з раёнаў гораду.

18 красавіка 2001 году пачалася вечарына ў залі дзіцячага дому. Канфэрансам сустрэчы быў Вітаўт Парфёненка — вернік Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі. Ва ўступным слове дзеці даведаліся пра важнасьць захоўваць і перадаваць беларускія традыцыі праз пакаленьні. Дзеці даведаліся пра валачобнікаў, пра выраб пальмавых галінак на Вербную нядзелю (экспанат зрабіла Алена Шунэйка — майстар народных промыслаў), пра гліняныя цацкі (іх падаравалі ў дзіцячы дом студэнты педагагічнай вучэльні). На працягу сустрэчы выступалі: Вікторыя Тарасевіч (традыцыі вербаў і пальмаў), Ігар Ганчарук (гісторыя вырабу яек-пісанак), Вера Кунцэвіч (арганізавала рухавыя гульні), паэты Юрась Пацюпа і Данута Бічэль-Загнетава прачыталі свае вершы. Праз усё мерапрыемства гучалі музычныя творы ў выкананьні хору беларускай духоўнай музыкі «Бацькаўшчына». Гэта былі песьні, якія і павінны быць у валачобнікаў: вялікодныя, вясёлыя, гукальныя — вясну абуджальныя. На заканчэньне гадзіннай вечарыны госьці пачаставалі дзетак слодычамі, якія самі прынесьлі. Таксама была перададзена гуманітарная дапамога: ад сябе, ад чыстага сэрца.

Гэтая акцыя ў Горадні ці ня першая, што арганізавана была сумесна каталікамі-беларусамі абодвух абрадаў. Але «першы блін» ня стаўся комам. Бо відавочная добрая справа — Божая справа. Наша добрая воля ня мела паказнога характару (таму й ня ведаю, дзеля чаго пішу), але на хвалу Божую. Гэты чын паказаў, што і маленькія грамады вернікаў-каталікоў могуць мець плён у апостальскім служэньні сярод людзей.

**В.П.**
*г.Горадня*

# Таракань — славутая рэзідэнцыя базыльянаў

Таракань... Гэтая загадкавая мясцовасьць на Палесьсі з такой дзіўнай назвай і багатым мінулым, даўно не давала мне спакою. Яе вы ня знойдзеце ні на адной сучаснай мапе, а на ранейшых (на якіх Таракань пазначана) — усё занадта схематычна. Таракань недзе за Кобрынем па дарозе на Пінск. Ну як жа так, думаў я: такая славутая ў сярэднявеччы мясьціна з уніяцкім кляштарам, дзе была рэзідэнцыя самаго Генерала Базыльянскага ордэну, дзе ня раз бывалі ўніяцкія мітрапаліты, Таракань, пра якую ведалі нават у Ватыкане, дзе яна зьнікла?! Ня ўжо не засталося й следу ад знакамітага асяродку Уніі? Ніякай інфармацыі няма і ў даведніках па архітэктуры. Дзе яна, сапраўдная Цьмутаракань, пра якую спрачаліся гісторыкі, што там цяпер ,— ніхто ня можа дакладна адказаць. Гэтак і з нашай палескай Тараканьню: ні знаёмыя навукоўцы, ні краязнаўцы не маглі мне адказаць, як сёньня называецца мясцовасьць, дзе некалі была Таракань. Адно я ведаў дакладна — яшчэ й сёньня існуюць у раёне паміж Антопалем і Драгічынем вельмі цікавыя і адметныя тараканскія гаворкі.



Мае краязнаўчыя росшукі пра Таракань далі шмат цікавай інфармацыі.

Першыя зьвесткі пра манаскі асяродак у Таракані — з 1517 году. У гэты год жонка Валынскага кашталяна Агата Пясочынская фундавала заснаваньне ў Тараканях (так часьцей тады пісалі на мапах) Траецкага манастыра, які належаў да Жыдычынскай архімандрыі. У першыя гады пасьля падпісаньня Берасьцейскай царкоўнай Уніі манастыром валодалі ўніяты, а Тараканская сядзіба была прызначана для ўтрыманьня ўніяцкай семінарыі, якую намагаўся стварыць на базе берасьцейскай брацкай школы Іпаці Пацей. Аднак у хуткім часе за Таракань пачалася сапраўдная вайна. Гедэон Балабан, Львоўскі біскуп (ён таксама быў архімандрытам Жыдычынскім), які да 1596 году падтрымліваў усе ўнійныя ініцыятывы, але пасьля пад прымусам брацтва выракся Уніі і адмовіўся падпарадкоўвацца царкоўнаму кіраўніцтву, разам са шляхтай, якая варожа ставілася да Уніі, пачаў рабіць узброеныя наезды, каб захапіць манастыр у Таракані, а праз гэта — перашкодзіць уніятам стварыць сваю семінарыю.

Цікавы факт: на мяжы XVI-XVII стст. у Тараканскай царкве душпастырам быў славуты грэцкі тэолаг Пётр Аркудзі, які сьпецыяльна прыехаў з Рыму для ўмацаваньня Уніі, каб дапамагчы мітрапаліту Іпацію Пацею ў падрыхтоўцы новых сьвятароў для Ўніяцкай Царквы. З верасьня 1601 году на ўрадзе яго каралеўскай міласьці менавіта знакаміты грэк у сваёй скарзе гродзкім Віленскага ваяводзтва Станіславу Пукшце, Кляўзгейлавічам, харунжым ваўкавыскім, намесьнікам віленскім на ротмістра Рыгора Уляніцкага сьведчыў, што «31 ліпеня 1601 году той пан з Гедэонам Балабанам, архімандрытам Жыдычынскім (выгнанцам), наехаўшы моцна гвалтам на сяло яго міласьці, названае Тараканы, у павеце Пінскім разьмешчанае... паўтары тыдні жывучы, вялікія і нязносныя крыўды падданым тамашнім, пабоі, мардаваньні, гвалты... чынячы, маёмасьць падданых — рухомую, збожжа, коні, быдла забраўшы, частку таму Балабану-выгнанцу на Валынь адаслаў, а іншую той пан Уляніцкі сабе пабраў, урадніка тамашняга Міхаіла Тышкоўскага выгнаў і тое сяло Тараканы ва ўладу слуг Балабанавых надаў і да гэтых часоў трымае».

Канчаткова Тараканскі манастыр быў зьяднаны з Каталіцкай Царквой толькі ў 1613 г. Паводле рашэньня базыльянскай капітулы 1657 году ў Таракані павінен быў быць пабудаваны новы, больш прасторны манастыр. Аднак гэты праект пачаў рэалізоўвацца значна пазьней — у 1710-1712 гг. Прычынай гэтага былі неспакойныя часы ды пастаянныя перашкоды з боку ўніяцкіх мітрапалітаў і асобных біскупаў, якія карысталіся з маёмасьці Тараканскай сядзібы і не сьпяшаліся аддаваць яе для патрэбаў манахаў. Гэтыя спрэчкі базыльянаў з ярархамі Ўніяцкай Царквы за валоданьне Тараканямі дайшлі нават да Ватыкану. З 1710 году манастыр у Таракані належаў ужо айцам базыльянам, меў статус архімандрыі і ўваходзіў у склад Сьвята-Троіцкай (Літоўскай) правінцыі Базыльянскага Ордэну. З другой паловы XVIII ст. у Таракані месьцілася курыя протаархімандрыта Базыльянскага Ордэну, і ў сувязі з гэтым манастыр пачаў актыўна разбудоўвацца.

У гісторыі Тараканскага манастыра трэба адзначыць важны момант, на які зьвяртае ўвагу біскуп Луцкі Ёсыф Боцян. Пасьля разгрому Базыльянскага закону, яго манастыроў і цэркваў, што быў учынены войскамі расейскага цара Пятра I у Беларусі, «каб гэткую вялікую страту і крыўды сьвятой каталіцкай веры, сьв. Язафата і Базыльянам хоць бы часткова направіць, адразу пасьля гэтага царскага пагрому базыльянскі протаархімандрыт Леў Кішка пабудаваў у гонар сьв. Язафата манастыр у Таракані, Кобрыньскага павету, славуты з генеральнай капітулы базыльянскай 1780 году».

У 1630-ыя гг., разьвіваючы захады Іпація Пацея, ягоны наступнік мітрапаліт Язэп Вельямін Руцкі рабіў намаганьні, каб у мясцовасьці Таракань Жыдзічынскай архімандрыі адкрыць семінарыю «для русінаў-уніятаў». На Наваградзкай капітуле Закону сьв. Васіля Вялікага 1717 году было прынята рашэньне «клірыкам Тараканскага манастыра... вучыцца таксама і маральнаму багаслоўю».

У неспакойныя для Беларусі часы, калі вораг з Усходу плюндраваў нашу краіну, нішчыў уніяцкія цэрквы і манастыры, у Таракані знаходзілі прытулак многія ўніяцкія мітрапаліты. Адсюль яны часта вымушаны былі кіраваць Царквою.

У 1780 годзе протаархімандрыт Парфір Важынскі склікаў у Таракані Генеральную капітулу Закону Айцоў Базыльянаў, якая стала вядома ў гісторыі найперш таму, што на ёй былі выпрацаваны Базыльянскія Канстытуцыі, якія прадугледжвалі новыя прынцыпы кіраваньня Законам. У сувязі з гэтым адбыўся адміністратыўны падзел Ордэну згодна з новымі дзяржаўна-палітычнымі ўмовамі і межамі. Былі створаны 4 правінцыі Закону: Літоўская, Беларуская, Руская і Галіцкая.На капітуле, што працягвалася амаль 3 месяцы (ліпень-верасень 1780 г.), апошні раз сабраліся разам прадстаўнікі ўсяго Ордэну з трох дзяржаў — Польшчы, Аўстрыі і Расеі. Усяго ў ёй бралі ўдзел больш за 100 манахаў.

Ужо з часоў працы ў манастыры славутага грэцкага багаслова Пятра Аркудзія, пачало ўзрастаць значэньне Таракані як важнага рэлігійна-асьветніцкага цэнтру: тут працуе школа, назапашваецца вялікая бібліятэка кніг на розных мовах, ствараецца багаты архіў з дакументаў і рукапісаў, якія адлюстроўваюць жыцьцё Ўніяцкай Царквы і Базыльянскага закону, цудоўныя творы мастацтва ствараюць іканапісцы. Няма сумненьня, што знакамітыя і вельмі адметныя ўніяцкія абразы так званага «зёлаўскага майстра дру-

гой паловы XVIII ст.» «Зыход Сьвятога Духа на апосталаў», «Дабравешчаньне», «Апосталы Тамаш і Ян», «Прарокі Майсей і Даніла» (гл. «Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў») паходзяць менавіта з Тараканскага манастыра, бо в.Зёлава знаходзіцца ўсяго за некалькі кіламетраў ад манастыра.

Цікава, што ў другой палове XVII - першай трэці XIX стст. паблізу Таракані была толькі адна праваслаўная царква ў в.Субаты (яе яшчэ называюць Малэй Торокань) — усе іншыя былі ўніяцкія.

Апошняя Генеральная капітула базыльянаў перад скасаваньнем Уніі таксама адбылася ў Таракані ў 1802 годзе. Але на ёй ужо былі базыльяне фактычна з адной Беларусі.

Што ж ўяўляў сабой Тараканскі манастыр у архітэктурным плане? Паводле апісаньня П.Баброўскага, якое ён зьмясьціў у працы «Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба: Гродненская губерния» (Спб, 1863), паўночная лінія Тараканскага манастыра, што прымыкае да франтавога павільёну, пабудавана яшчэ Агатай Пясочынскай, а іншыя лініі пабудаваны базыльянамі ў 1757-1780 гг. Царква ў гонар Богазьяўленьня Госпада (да 100 кв. сажаняў), аднапрастольная, з 2 вежамі з фронту, з намаляванымі альфрэска сьвятымі выявамі, збудавана ў 1780 г. біскупам Пінскім і Тураўскім Гедэонам Дашкевічам. У званіцы, што ў левай вежы, 3 званы. Манастыр у Таракані быў адным з адметных помнікаў архітэктуры віленскагабарока.

Да 1839 году, як піша П.Баброўскі, манастыр утрымліваўся за кошт даходаў з маёнткаў Таракань, Чыкінь і Ласінцы, у якіх на 1841 год было 250 двароў, 1911 душ і 275 валокаў зямлі (5376 дзесяцін). У 1839 годзе Тараканскі манастыр «узьядналі» з праваслаўем і на падставе «Высочайшего указа» 25 сьнежня 1841 году ён быў залічаны да 3-га класу. Па штату тут належала быць настаяцелю і 12 братам. На ўтрыманьне манастыра (жалаваньне, ацяпленьне, асьвятленьне, рамонт і інш.) было выдзелена 1540 руб. і звыш таго 16 руб. 20 кап. штогадовай фундушовай аплаты. На падставе гэтага ж указу маёнткі Таракань, Чыкінь і Ласінцы 14 сакавіка 1842 году перадаваліся дзяржаве, а манастыру было пакінута 100 дзесяцін зямлі (9 дзесяцін 196 сажаняў прысядзібнай, 54 дзесяціны 2016 сажняў пашы, 29 дзесяцін 456 сажняў сенажаці і 6 дзесяцін 360 сажняў няўдобіцы).

Пасьля скасаваньня Уніі шмат парафіяльных уніяцкіх сьвятароў і манахаў-базыльянаў працягвалі актыўна пратэставаць і не жадалі ні пры якіх умовах прымаць праваслаўе. Ужо пачынаючы з 1838 году ў тараканскі манастыр пачалі ссылаць нескароных уніяцкіх сьвятароў. Многія з іх былі пазбаўленыя сьвятарскай годнасьці, а некаторыя пазьней нават былі сасланыя за межы Беларусі ў глыб Расеі. Такі лёс напаткаў а. Ігната Башнянскага і а. Віктара Басяцкага, якія з Тараканяў былі сасланыя ў манастырвязьніцу ў Курску. Іншы тараканскі сьвятар — базыльянін а. Аналект Данялевіч — быў сасланы за сваю адданасьць Уніі ў Арлоўскую губерню.

Паводле дадзеных на 1858 год, у тараканскім манастыры жылі 4 манахі, да 2 паслушнікаў, 9 манастырскіх служак, а таксама да 4 сьвятароў, «ссылаемых по распоряженію епархіального начальства», г. зн. яшчэ праз 20 гадоў пасьля скасаваньня Уніі ў Таракані былі ўвязьненыя нескароныя ўніяцкія сьвятары. Вось некаторыя прозьвішчы мужных вызнаўцаў веры, што былі ўвязьненыя ў Тараканскім манастыры, якія ўдалося адшукаць: Зджарскі Тэадозі, сасланы ў 1841 г. (перад сьмерцю ў 1852 г. яму было дазволена вярнуцца на Валынь, дзе жылі ягоныя сваякі); Кулакоўскі Себасьцян, сасланы ў 1841 г.; Анішкевіч Дзяніс, духаўнік сясьцёр Базыльянак у Менску; Хрулкевіч Яўген, сасланы з Вільні. Але гэта далёка ня ўсе...

Пасьля I Сусьветнай вайны галіцыйскія айцы базыльяне накіравалі свае місіі ў розныя куткі сьвету. Місіянеры-базыльяне спрабавалі адрадзіць уніяцкія асяродкі ды заснаваць сваю місію і на беларускім Палесьсі. Але замацавацца базыльянам на Палесьсі не ўдалося. Тым ня менш, нельга не адзначыць, што ў Таракані ў 1926 г. і ў Пінску ў 1926-1928 гг. працаваў місіянерам выдатны прадстаўнік Закону сьв. Васіля Вялікага айцец Павел Дзямчук. Гэты сьвятар — адзін з кіраўнікоў адроджанага базыльянскага закону — раней працаваў духаўніком у Рыме ў Папскай калегіі сьв. Язафата (1904-1909 гг.), а таксама Генеральным пракуратарам Закону Айцоў Базыльянаў у Рыме (1908-1909 гг.), зьяўляўся кансультарам у Галіцыйскай Управе базыльянскага закону. У 1911-1914 гг. а. Павел Дзямчук быў капеланам мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага, а ў 1920-1925 гг. ён працаваў прафесарам Львоўскай семінарыі. Гэта ён, а. Павел Дземчук, адшукаў у сьнежні 1915 году ў Белай на Падляшшы сьвятыя рэліквіі ўніяцкага архібіскупа-мучаніка Язафата Кунцэвіча.



*Таракань, 1998 год. Гэты камень — усё, што засталося ад барочнай царквы базыльянаў.*

У 1935 годзе базыльяне зрабілі новую спробу аднавіць сваю місію ў Таракані, але праз розныя перашкоды з боку польскай улады замацавацца тут ім ізноў не ўдалося...

У міжваенны час у Таракані працаваў выдатны ўніяцкі сьвятар Данат Навіцкі. Гэтаму чалавеку давялося прайсьці праз Салаўкі, дзе ён, дарэчы, і быў высьвячаны на сьвятара біскупам Баляславам Слоскансам.

Адметнай падзеяй у міжваеннай гісторыі Таракані стала візітацыя ўніяцкай парафіі Апостальскім нунцыем Ватыкану. Нават сёньня рэдка якая вёска можа пахваліцца такой увагай з боку прадстаўніка Апостальскай Сталіцы, а тады, 27 ліпеня 1938 году, Нунцый асабіста пажадаў пазнаёміцца з жыцьцём уніятаў у гэтай палескай вёсцы, дзе надзвычай пасьпяхова працаваў з дзецьмі і моладзю а. Данат Навіцкі.

Ведаючы пра гісторыю Таракані столькі цікавага, захацелася паглядзець, што ж тут сёньня.

І вось здарылася нагода, і мы, берасьцейсія грэка-каталікі, вырашылі пас прабавацьь адшукаць месца, дзе знаходзіўся славуты асяродак айцоў базыльянаў. Мы ехалі па трасе Берасьце-Пінск у нашу палескую Цьмутаракань амаль наўгад. Калі праехалі Антопаль, напэўна, Сьвяты Дух падказаў нам, калі трэба збочыць з галоўнае дарогі. Мы зьвярнулі ў в.Брашэвічы і, пабачыўшы купку вяскоўцаў, вырашылі пад'ехаць да іх, каб паразмаўляць.

Гаворку пачалі здалёк, баяліся, што пры словах «унія» сутыкнемся з неразуменьнем ці нават непрыязным стаўленьнем да сябе. Але ж не, наадварот! Калі мы сказалі, што займаемся дасьледаваньнем гісторыі Уніі і хочам патрапіць у Таракань, каб пабачыць славуты манастыр базыльянаў, вяскоўцы разам загаманілі: «О, то вам до Іменіна, а там спытайтэ Клештор». Мы адразу адчулі павагу да нас з боку вяскоўцаў і шчырае жаданьне дапамагчы ў нашых пошуках.

«Клештор» — гэтак дзіўна гучыць у мясцовай гаворцы месца, дзе некалі быў славуты Тараканскі манастыр айцоў базыльянаў. Так, быў, бо, як мы даведаліся ад вяскоўцаў, ад царквы і манастырскіх будынкаў амаль нічога не засталося — пасьля вайны зьнішчылі ваяўнічыя атэісты. Што ж, вырашылі ехаць, каб хоць паглядзець на тое, што пакінулі саветы. Пад'ехаўшы да прыгожых векавечных ліпаў зразумелі, што мы на месцы. Вакол па перыметры — нейкія калгасныя будынкі, але некаторыя чамусьці з моцнымі контрфорсамі. Нас заўважылі вясковыя жанчыны. Падыходзім, пытаемся, ці гэта Клештор, ці гэта і ёсьць Таракань. Так, мы не памыліліся. Сёньня вёска Імянін разраслася і паглынула Таракань, засталася толькі народная назва часткі вёскі — Клештор.

Цікавімся, ці чулі тут пра ўніятаў. Выяўляецца, ня толькі чулі: старэйшая жанчына сказала, што яна ўніятка па хросьце, а ў іншай маці была ўніяткаю. Паводле іх словаў, у Імяніне і сёньня нямала былых уніятаў, нават сярод калгаснага кіраўніцтва ёсьць былыя ўніяты, і людзі яшчэ не забыліся пра міжваенныя часы, калі тут працаваў уніяцкі сьвятар Данат Навіцкі, якога тут усе любілі і паважалі.

*Працяг на с. 15* ⇨

# Адданы прапаведнік хрысьціянскай веры і царкоўнай еднасьці

*Прысьвячаецца сьветлай памяці ўніяцкага сьвятара Даната Навіцкага з Таракані*

Я хачу распавесьці пра Даната Навіцкага — уніяцкага сьвятара, які жыў і працаваў у Таракані (сёньня Драгічыньскі раён Берасьцейскай вобласьці) у 1927-1939 гг. Там была ягоная парафія, а ён быў пробашчам. У часы, калі айцец Навіцкі быў нашым душпастырам, уніяцкая царква была вельмі даступная і адкрытая для ўсіх без выключэньня: для рыма-каталікаў, праваслаўных і нават для зусім няверуючых. Каля царквы ў старым манастыры манахаў базыльянаў была дзяржаўная сельскагаспадарчая школа. Дырэктар і ўсе настаўнікі ды абслуга прыходзілі ў царкву памаліцца. Бедныя сяляне вянчаліся, хрысьцілі дзяцей, прасілі аб пахаваньні сваякоў у сьвятара Навіцкага. За гэта ўсё ён браў толькі тое, што падавалі. Так што айцу Навіцкаму было шмат працы.

Айцец Навіцкі быў вельмі адукаваны чалавек і, як мне здаецца, быў доктарам тэалогіі і філасофіі. Выдатнай душы чалавек. Адданы прапаведнік хрысьціянскай веры ў Бога і Ўніяцкай Царквы. Зьбіраў ён ля сябе людзей, якія прагнулі прасьвятленьня і веры ў Бога. У асноўным гэта была моладзь і дзеці.

Усе мяне пытаюцца, як я патрапіла вучыцца ў Варшаву. Гэта было ў далёкім 1937 годзе. І адбылося гэта дзякуючы нашаму ўніяцкаму сьвятару айцу Навіцкаму. Менавіта дзякуючы яму, які так шмат імкнуўся даць нам, бедным вяскоўцам, шмат мясцовых дзяцей прынялі ўніяцкую веру, змаглі атрымаць адукацыю. Айцец Данат разьязджаў па ўсёй Польшчы, дзе ўладкоўваў дзяцей з бядняцкіх сем'яў у кляштары і навучальныя ўстановы розных манаскіх супольнасьцяў, каб дзеці з Драгічыншчыны маглі вучыцца розным навукам і рамяству, кожны паводле ўласных схільнасьцяў і здольнасьцяў.

Айцец Данат Навіцкі меў вельмі вялікую прыватную бібліятэку, кнігамі якой маглі карыстацца ўсе вяскоўцы. Кнігі былі найлепшыя. Уся класіка: беларуская, расейская, польская, украінская. Нават былі савецкія кнігі («Как закалялась сталь»). Сярод тых, хто пазычаў у а. Даната Навіцкага кнігі, былі нават мясцовыя падпольшчыкі-камуністы. Такія, як будучы старшыня мясцовага калгасу Яхімовіч. Сьвятар Навіцкі гаварыў пра яго: «Nawrucony komunista», думаў, што ён сапраўды шчыра паверыў у Бога, а той у гэты час проста хаваўся ад уладаў. Пасьля вайны гэты «nawrucony komunista» ўзарваў царкву ў Таракані...

Выдачай кніг з бібліятэкі займалася ў асноўным жонка сьвятара — матушка Антаніна. Гэта была вельмі адукаваная жанчына, якая добра ведала французскую мову і была правай рукой айца Даната. Яна вяла перапіску з намі, вясковымі дзецьмі, якія навучаліся ў Польшчы, падпісваючыся пры гэтым ініцыяламі айца Даната Навіцкага. Самыя бедныя дзеці маглі атрымаць ад матушкі такую-сякую вопратку.

Калі мы былі на летніх вакацыях, то па нядзелях усе сыходзіліся ў Таракань, дзеля таго, каб сустрэцца з айцом і матушкаю. Яны, у сваю чаргу, пасьля службы для ўсіх арганізоўвалі пачастунак, а пры добрым надвор'і абед быў на прыродзе. Але і некаторыя вернікі таксама прыносілі з сабою нешта з ежы дзеля такіх сумесных абедаў. На жаль, я са сваімі братамі (Васілём, Аляксеем і Пятром) не магла прынесьці сваёй каўбасы ці сала, таму мы з раніцы беглі ў лес па ягады й грыбы, каб потым прыгатаваць і далучыць іх да агульнага стала. Пасьля заканчэньня службы Божай мы ўсе разам выходзілі на прыроду, расьсцілалі белы абрус, на які клалі свае прыпасы, а матушка прыносіла вялікія боханы сьвежасьпечанага хлебу, шкваркі і гарбату з сочывам чорнай парэчкі. З-за адсутнасьці талерак шкваркі клалі на лісты хрэну й капусты, вось так і абедалі. Пасьля трапезы былі размовы на самыя розныя тэмы. Таксама ўсе любілі разам пасьпяваць песьні (любоўныя, жартаўлівыя й г.д.) — беларускія, украінскія, польскія. Пад вечар усе разыходзіліся па сваіх вёсках (Брашэвічы, Лесьнікі, Вісходы, Сіманавічы, Дзераўная, Віры, Белянок і г. д.). Дзяўчат хлопцы развозілі на роварах.



*Уніяцкі сьвятар з Таракані Данат Навіцкі з дзецьмі. Жнівень 1936 г. (З архіву сп-ні Н.Алешкі).*



*Выхаванкі а. Даната Навіцкага, якія навучаліся ў Варшаве, разам са сваім пастырам. 1936 год. (З архіву сп-ні Н.Алешкі).*

Узгадваю царкву нашу — яна была вельмі прыгожая. Унутры была расьпісана фрэскамі. Праўда, з часам яны пабляклі. Сьвятар гаварыў, што ў месцы, дзе была фрэска сьв.Ануфрыя (патрона нашай царквы), схаваны нейкія царкоўныя дакументы. Невядома, ці да таго, як царкву ўзарвалі бязбожныя ўлады, ці пасьля, але людзі сьцьвярджалі, што нехта ў Маскву забраў гэтыя дакументы. Сьвятар Навіцкі казаў нам, маладым, што ён ужо сабраў грошы на рамонт царквы і ўсе гэтыя фрэскі ў царкве хутка адновяць. Ён нават быў дамовіўся з архітэктарам. Але вайна 1939 г. разбурыла ўсе планы.

Айцец разам з матушкай вымушаны былі пакінуць Таракань і зьбегчы ў Польшчу. У апошні вечар Данат Навіцкі паклікаў нас разьвітацца. Я і мае браты Васіль, Аляксей, Пётр ды некаторыя іншыя асобы былі на той разьвітальнай сустрэчы, перад самым ад'ездам а. Даната Навіцкага і ягонай жонкі на Захад. Ужо было бачна полымя ў Берасьці і Кобрыні і чутны выбухі. Айцец Навіцкі ўжо пабываў у бальшавікоў на Салаўках і добра ведаў, чаго ад іх чакаць. Там, на Салаўках з царскага афіцэра ён ператварыўся на сьвятога айца. Там разам з ім быў у высылцы каталіцкі біскуп. Ён і падрыхтаваў айца Даната Навіцкага на каталіцкага сьвятара ды высьвяціў яго.

Мы пыталіся ў нашага сьвятара, што нам рабіць пры савецкай уладзе. Айцец Навіцкі нам сказаў: «Супраць улады нічога ня зробіш, але ў камсамол не пішыцеся, тым больш што хутка ўсё зноў зьменіцца, бо праз тры гады сюды прыйдзе немец». А немец прыйшоў раней — праз два гады... У той апошні вечар Навіцкі адабраў найлепшыя кнігі нам і прасіў іх захаваць. А сам плакаў горкімі сьлязьмі. Казаў, што нічога з рэчаў так не шкада, як бібліятэкі. Браты мае адносілі мяхамі гэтыя кнігі дахаты. Гэта было ня блізка — кіламетраў з пяць. Вярталіся яны ў тую ноч разы тры. Жылі мы тады каля в.Аляксеевічы, побач быў лес, дзе ў вайну хаваліся партызаны. Яны, калі даведаліся пра

# Таракань –
## славутая рэзідэнцыя базыльянаў

⇨ Заканчэньне са с.12-13

Як мы даведаліся, у міжваенны час у манастырскіх будынках месьцілася сельскагаспадарчая школа, у вайну партызаны ўзарвалі частку манастырскіх будынкаў, а цяпер на гэтым месцы калгасны мехдвор. Нам паказалі месца, дзе некалі стаяла царква — ад яе застаўся толькі кавалак памерам каля 1 м, які чамусьці пакінулі.

Вельмі нас зацікавіў будынак, дзе цяпер калгасныя вагі. Звонку ён падаўся нам яўна старэйшым за пабудову XX стагоддзя (бо мае контрфорсы). Унутр, на жаль, патрапіць не змаглі — было зачынена, але збоку мы ўвайшлі ў расчыненыя дзьверы, якія вялі ўніз. Мы патрапілі ў склеп, дзе захаваліся нават зводы. Пэўна ж, гэта пабудова не калгасных часоў. Узьнікла думка: ці не манастырская гэта пабудова? Добра, каб гэтым і іншым будынкамі ў Імяніне зацікавіліся сьпецыялісты з аховы помнікаў...

Жанчыны, якіх мы сустрэлі на Клешторы, падказалі нам у суседняй вёсцы Віры ўніяцкую сям'ю, якая можа больш распавесьці пра жыцьцё міжваеннай уніяцкай парафіі і пра а.Д.Навіцкага. Адбылося вельмі цікавае і кранальнае знаёмства. Айцец Ігар Кандрацьеў разам з берасьцейскімі вернікамі некалькі разоў прыязджаў потым у Віры, каб адслужыць сьв. Літургію ў хаце былых уніятаў. Гаспадыня, як і гаспадар, дагэтуль засталася верная Каталіцкай Царкве, вельмі расчулілася, прызналася, што апошні раз прычашчалася ва ўніяцкага сьвятара шэсьць дзесяцігоддзяў таму. Ды й у савецкія часы гэта было вельмі рэдка: вяскоўцам маліцца не было дзе — ні ў праваслаўнай царкве, ні ў касьцёле (бліжэйшыя незачыненыя касьцёлы былі ў Пінску і Берасьці), і таму сп-ня Марыя з мужам Васілём звычайна малілася дома, на ружанцы. Ужо ў апошнія гады, калі ў Імяніне калгас пачаў будаваць праваслаўную царкву, гаспадыня спрабавала хадзіць туды на набажэнствы, але сьвятар там аказаўся нягодны, да таго ж любіў выпіць. Ды й наогул, прызналася гаспадыня, яна адчула, што не яе гэта царква, чужая, няма ў ёй таго жыцьця, што было пры сьвятары-уніяце Д.Навіцкім,— мёртвае ўсё там. У касьцёл сёньня патрапіць таксама ёй ужо цяжка — далёка, ды й узрост ня той. Таму магчымасьць атрымаць сьв. Еўхарыстыю ад каталіцкага сьвятара візантыйскага абраду ва ўласным доме сям'я палічыла за вялікую, нечаканую радасьць і ласку Божую.

На сьв. Літургіі ў Вірах былі ня толькі мясцовыя жыхары, прыязджала нават адна сям'я з Драгічыня — былы міністрант уніяцкай парафіі ў Таракані з жонкай-настаўніцай, таксама ўніяткай. Цікава, што вельмі хутка на нашыя прыезды адрэагавала мясцовая ўлада — жыхарам Віроў штонядзелі пачалі падаваць аўтобус, каб яны маглі патрапіць у праваслаўную царкву, а яшчэ праз нейкі час нават замянілі сьвятара... Што ж, і гэта добра, бо робіцца для людзей, для веры Божай.



*Магчыма, гэта адна з ацалелых манастырскіх пабудоваў у Таракані.*

«Каб трохі раней зьявіўся ў гэтых мясцінах уніяцкі сьвятар!»— шкадавалі былыя ўніяты. Тады яшчэ не пачалося будаўніцтва праваслаўнай царквы ў Імяніне, і шмат хто, як лічаць уніяты, падтрымаў бы адраджэньне ўніяцкай парафіі. Сёньня ў Вірах, Імяніне, Брашэвічах ды некаторых іншых навакольных вёсках ёсьць невялікая колькасьць былых уніятаў з тараканскай парафіі, верных Каталіцкай Царкве. Ёсьць людзі, якія ведаюць пра свае ўніяцкія карані, але пакуль лічаць неабходным трымацца таго, што сёньня ёсьць, іншыя — ня бачыць вялікай розьніцы, дзе маліцца,— усе ж мы хрысьціяне, а некаторыя баяцца ціску, ведаючы пакутную гісторыю Уніі...

Кляштару айцоў базыльянаў у Таракані давялося стаць адным з тых асяродкаў, дзе вызначаліся шляхі разьвіцьця Закону сьв. Васіля Вялікага, дзе пісалася гісторыя ўсёй нашай Уніяцкай Царквы. У часы ваяўнічага атэізму гэтую славутую старонку мінуўшчыны Ўніяцкай Царквы паспрабавалі зьнішчыць, каб ад яе не засталося і сьледу, каб нішто не нагадвала пра былую веліч і славу Тараканяў, каб забыліся людзі пра сьвятую Унію і яе мужных вызнаўцаў-мучанікаў, многія з якіх знайшлі свой апошні прытулак менавіта тут, у Таракані. Кажуць, на месцы старажытных тараканскіх могілак быў закладзены калгасны сад, таму адшукаць сьляды могілак пакуль не ўдалося. Тым ня менш, для сучаснага пакаленьня грэка-католікаў Таракань — гэта адно са сьвятых месцаў, бо тут маліліся і пакутавалі за еднасьць уніяцкія сьвятары і манахі. Веру, што некалі паўстане тут памятны знак — крыж ці капліца. Магчыма, вернуцца калі-небудзь у Таракань і манахі-базыльяне. Будзем верыць!

**Ігар Бараноўскі**

---

кніжкі, пачалі забіраць іх на цыгарэты... Пры немцах, калі нас перасялілі ў Брашэвічы, да аднаго з нашых парафіянаў Сьцяпана Млынчыка часта заходзіў праваслаўны бацюшка Навумаў і браў рэлігійныя кнігі з бібліятэкі а. Даната Навіцкага, каб рыхтаваць па ім свае казаньні. Кнігі, па якім служыў а. Данат Навіцкі, былі падобныя да праваслаўных. Некалькі з кніг а. Навіцкага ў мяне захаваліся — гэта энцыклапеды — але гэта кропля ў моры. А дзе астатнія — ня ведаю. Разабралі, разьнесьлі тараканцы. Вось так і зьнікла вялікая бібліятэка сьвятара Навіцкага, які прынёс культуру ў нашу палескую глыбінку.

Нават сёньня, больш чым праз шэсьцьдзесят гадоў, ува мне жыве сьветлая й добрая памяць пра айца Даната Навіцкага. Забыць на такога чалавека было б няправільна, бо нават няверуючыя людзі айца Даната вельмі паважалі. На жаль, мне падаецца, што ў нашыя дні імя выдатнага сьвятара з Берасьцейшчыны Даната Навіцкага незаслужана забыта, а ён быў такой знакавай для Палесься асобаю, пра якую трэба памятаць як сёньня, так і ў будучым. Менавіта з імем Даната Навіцкага зьвязана гісторыя аднаўленьня Ўніяцкай Царквы на Палесьсі ў першай палове дваццатага стагоддзя. Гэта быў сапраўдны сьвятар, і калі б гэта было ў маіх сілах, то я прылічыла б Даната Навіцкага да сьвятых ці, прынамсі, паставіла б яму помнік у Таракані.

**Натальля АЛЕШКА (МЛЫНЧЫК)**
*в.Брашэвічы Драгічыньскага р-ну Берасьцейскай вобл.*

***Ад рэдакцыі:***

*Будзем вельмі рады, калі сваімі ўспамінамі пра жыцьцё ўніяцкай парафіі ў Таракані падзеляцца таксама й іншыя парафіяне а. Даната Навіцкага — вашыя лісты і фотаздымкі мы абавязкова зьмесьцім на старонках газеты «Царква».*

## АБ'ЯВА

**Дзеля падрыхтоўкі выставы, прысьвечанай сьветлай памяці дэкана БГКЦ а. Яна Матусевіча, які вельмі шмат зрабіў для станаўленьня Полацкай парафіі сьв. Язафата, яе кіраўніцтва зьвяртаецца да ўсіх чытачоў газеты «Царква» з просьбай дапамагчы сабраць матэрыялы пра жыцьцёвы шлях і душпастырскую дзейнасьць а. Яна.**

*Лісты, фотаздымкі або іншыя матэрыялы можна дасылаць на адрас манастыра (211400 г.Полацак, вул. Навасёлаў, 70), старшыні парафіі сп. Міколу Шараху.*

# Скаўты на вакацыйных шляхах

**Перыяд вакацыяў для многіх – гэта час адпачынку. У прыватнасьці, жыхары гарадоў шукаюць у гэты перыяд магчымасьцяў, каб правесьці хоць бы некалькі дзён на ўлоньні прыроды. У апошнія гады асабліва моладзь шукае новых формаў кантакту з прыродай, формаў дынамічных і карысных у пазнавальным плане. Адна з такіх формаў — вакацыйныя летнікі скаўтаў. Памятаючы пра скаўтаў (тых, якія ўжо існуюць, і патэнцыйных), Рэдакцыя прапануе артыкул мансіньёра Крыштафа Ніткевіча, сябра нашай Царквы, які добра вядомы як душпастыр італійскіх скаўтаў.**

Скаўцкія летнікі ў час вакацыяў вельмі добра служаць непасрэднаму кантакту чалавека з прыродай. Таксама добра служаць яны фармаваньню характараў моладзі. Як вядома, скаўтынг гэта ня толькі забава, гульня ці прыемнае баўленьне вольнага часу. Скаўтынг вучыць, як жыць у гармоніі з Богам, з людзьмі і сьветам. Вось чаму стваральнік скаўцкага руху лорд Бадэн-Паўэл казаў, што сапраўдны скаўт ня можа быць атэістам, бо ў сваім разьвіцьці ён абапіраецца на дзьве вялікія кнігі, якія перадаюць праўду пра Бога: Біблію і прыроду.



*Душпастыр італійскіх скаўтаў манс. Крыштаф Ніткевіч (справа) на адным з міжнародных скаўцкіх летнікаў.*

Асабліва каштоўнае тое, што скаўты не баяцца цяжкасьцяў ды імкнуцца патрапіць у розныя малавядомыя куточкі краю (часам таксама й замежжа), каб ацаніць прыгажосьць навакольнага сьвету. Прыгажосьць прыроды, натуральна, выклікае ў сэрцы кожнага чалавека захапленьне і прыводзіць да выказваньня падзякі Творцу. Прыгажосьць прыроды робіць больш простым кантакт з Творцам. Цешыць той факт, што ўсё больш і больш скаўтаў бярэ ў свой вакацыйны заплечнік таксама й кнігу Новага Запавету. І сапраўды, у перыяд вакацыяў няма ніякай зачэпкі для апраўданьня, што не хапае часу на малітву і чытаньне Сьвятога Пісьма...

Скаўтынг — гэта адначасова няспыннае імкненьне да лепшага пазнаньня сябе, у тым ліку асэнсаваньня свайго пакліканьня ў сьвеце, на Бацькаўшчыне, у Царкве, у грамадзтве. Ужо нават само пакаваньне вакацыйнага заплечніка, у якім можа зьмясьціцца вельмі абмежаваная колькасьць рэчаў, вучыць адрозьніваць найбольш неабходнае сярод усяго іншага. Узгадваецца наказ, які Хрыстос даў сваім вучням — умець задавальняцца тым, што сапраўды неабходна *(пар. Лк 10, 4-5)*.

Гэтак сама й шматдзённыя вандроўкі з начоўкамі на «ўлоньні прыроды» бязьлітасна выяўляюць нашыя нават самыя маленькія слабасьці і «разбэшчанасьць» ды вучаць пакоры (гэта значыць — праўдзе пра нас саміх).

Можа, у нармальным жыцьці нам зрэдку прыдасца здольнасьць рабіць некалькі дзясяткаў самых розных вузлоў, уменьне запаліць адной запалкай двухметровы стос сухога гальля або здольнасьць паразумецца пры дапамозе азбукі Морзэ. Але гэтыя тыповыя навыкі скаўта зьяўляюцца дасканалай школай, якая рыхтуе да пераадоленьня значна большых цяжкасьцяў і праблемаў штодзённага жыцьця.

Скаўтынг — гэта, відавочна, здольнасьць быць і супрацоўнічаць з іншымі. Уменьне вытрымліваць дысцыпліну і лічыцца з аўтарытэтам кіраўнікоў.

Пазнаць іншую асобу, якая дзеліць з намі той самы штодзённы лёс, зьмерыць з ёй свае ўласныя сілы, удзяліць іншаму неабходную дапамогу і адначасова самому яе не адкідаць — гэта тыя правілы, якія ёсьць абавязковыя ў кожнай дружыне. Гэта вядзе да ўсьведамленьня ўласнай адказанасьці за родны Край, вучыць любіць гісторыю Краю, вядзе да адказных дзеяньняў у дні сёньняшнім.

Таму, зразумела, што скаўты часта знаходзяцца ў першых шэрагах розных гуманітарных акцыяў, нясуць дапамогу тым, хто яе патрабуе. Нярэдка можна пабачыць як яны працуюць у службе парадку ў часе правядзеньня царкоўных урачыстасьцяў, пілігрымак. Так было ў Рыме падчас сьвяткаваньня Юбілейнага Году, так было і падчас нядаўняга візіту Сьвятога Айца ва Ўкраіну.

Скаўтынг вучыць гатоўнасьці несьці дапамогу, вучыць мужнасьці, каб адкідаць зло (алкаголь, цыгарэты) і не паддавацца залежнасьці, вучыць сьмеласьці жыць у свабодзе.

**Манс. Крыштаф Ніткевіч**

# Госпадзе, добра нам тут быць!

⇨ *Заканчэньне са с.10*



Амаль штодзённа былі арганізаваны выезды для адпачынку на прыродзе і пазнаньня гісторыі роднага краю. Дзеці пабывалі ў Косаве, дзе пагулялі ля муроў славутага палаца Пуслоўскага, у Марачоўшчыне, на месцы, дзе стаяла сядзіба Тадэвуша Касьцюшкі, ушанавалі памяць славутага змагара за Бацькаўшчыну. Была таксама магчымасьць памаліцца разам з колішнімі ўніятамі каля памятнага крыжа на месцы спаленай уніяцкай царквы ў в.Баброўічы. Гэта была вельмі кранальная сустрэча з узьнёслай малітвай.

Тыдзень, адведзены на летнік, вельмі хутка мінуў. За гэты час дзеці вельмі моцна пасябравалі, сталі разам з дарослымі адной сям'ёй. Разам маліліся, праслаўлялі Госпада ў песьнях і гульнях, вучыліся пазнаваць Бога і адкрываць свае сэрцы для Яго. Летнік дапамог дзецям больш раскрыцца, праявіць сябе. А яшчэ яны атрымалі важны досьвед: мірыцца, прабачаць, дапамагаць адзін аднаму.

«Госпадзе, добра нам тут быць!»— такія словы са Сьвятога Пісаньня найлепш адлюстроўвалі наш адпачынак у Івацэвічах. Хацелася сьпяваць: «Як гэта хораша й міла жыць у любові братняй!»

Упэўнены, мэта летніку, якую паставілі яго арганізатары, была рэалізавана, а ў дзяцей успамін пра летнік застанецца надоўга. Будзем верыць і спадзявацца, што гэты досьвед кантакту дзетак з Богам будзе сталым і неабходным, і яны разам з бацькамі будуць праслаўляць Бога на роднай беларускай мове ў сваёй Бацькаўшчыне-Беларусі.

**Іпадыякан Аляксандр Сапунко**

*Падпісацца на газету «Царква» можна ва ўсіх аддзяленьнях сувязі Беларусі. Кошт падпіскі на квартал – 209 руб. Наш падпісны індэкс 63205*

**Царква**
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 2 (29), 2001*

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by

**Заснавальнік і выдавец:** Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** а. Роберт Крывіцкі, SOEL
**Рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 15 ліпеня 2001 году, а 22-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 836), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова №**
**Аб'ём** — 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 4300 асобнікаў.

*Наш разьліковы рахунак № 3015200210017 у Берасьцейскім філіяле № 2 ЗАТ "Абсалютбанк", МФО 150501242*

*Газета выдаецца на вашыя ахвяраваньні. Шчыра дзякуем і молімся за ўсіх нашых ахвярадаўцаў!*